17 траўня 2019 | № 18 (629)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by
Агульнапалітычная штотыднёвая газета

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Казахскі кот у мяшку**
Стар. 9



# Парад ці памяць?



Сяргей ПУЛЬША

**Па Мінску зноў пойдуць танкі. З 14 траўня ў сталіцы пачынаецца рэпетыцыя парада на 3 ліпеня. Зноў будуць сапсаваныя дарогі, аўтамабілісты — у сувязі з праходжаннем ваеннай тэхнікі — займеюць шматлікія нязручнасці. Дый не толькі аўтамабілісты — нават «Мінсктранс» папярэджвае, што на некаторых аўтадарогах будуць уведзеныя «часовыя абмежаванні».**

Чарговым разам паўстае пытанне: навошта нам парад у цэнтры горада?

У 2017 годзе, калі танк у выніку заносу знёс слуп на праспекце Незалежнасці, гэта пытанне задалі многія. Была нават створаная петыцыя за перанос парада з цэнтра горада куды-небудзь у іншае месца — напрыклад, на спецыяльна абсталяваны палігон. Там людзі маглі б атрымаць асалоду не толькі ад праходжання ваеннай тэхнікі — можна было б зладзіць і іншыя шоу. Тая тэхніка была б даступная для агляду, можна было б памацаць яе рукамі, удосталь пафатаграфаваць — і, верагодна, каму-небудзь з дзетак у выніку такіх «наўпроставых зносін» са зброяй захацелася б стаць прафесійным вайскоўцам.

А жыхары Мінска былі б пазбаўленыя шматлікіх праблемаў, асноўныя транспартныя артэрыі сталіцы не былі б разбітыя танкавымі тракамі.

Але наша Міністэрства абароны ўсе падобныя ініцыятывы адпрэчыла. На думку ведамства, правядзенне ваенных парадаў падтрымлівае пераважная большасць грамадзян, «пра што сведчыць факт запаўнення назіральных пляцовак і трыбун, прасторы, якая дазваляе назіраць за правядзеннем мерапрыемства». А перанос ваеннага параду за межы сталіцы «прывядзе да значнага павелічэння выдаткаў на яго падрыхтоўку і правядзенне».

Абодва аргументы вельмі сумнеўныя. Факт «запаўнення пляцовак» зусім не сведчыць пра падтрымку гэтага мерапрыемства «большасцю грамадзян». Усе мы ведаем, што гэтыя пляцоўкі запаўняюцца па разнарадцы, у «добраахвотна-прымусовым» парадку. І звычайнаму грамадзяніну на трыбуну трапіць вельмі праблематычна.

Мы не ведаем, якія выдаткі на парад нясе Мінабароны — дакладныя лічбы ведамства захоўвае, нібы самую страшную ваенную таямніцу. Паводле ўскосных дадзеных журналістаў з адкрытых крыніцаў на 2017 год, на парад выдаткавалі больш за 2 мільёны 367 тысяч долараў. У гэтую суму ўваходзіць транспарціроўка ваенных, упрыгожванне горада, пашыў святочнай формы, паліва для гусенічнай тэхнікі, салют і выдаткі ЖКГ. Але не ўваходзіць рамонт дарог пасля параду, кампенсацыя нязручнасцяў, звязаных з перакрыццём цэнтра горада, і парушэннем спакойнага сна грамадзян.

Кіраўнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны, палкоўнік Уладзімір Макараў неаднаразова называў парад у Мінску «сакральным знакам». І дагаварыўся аж да таго, што параўнаў працаўнікаў параду з калабарантамі. «Справа не ў эканамічнай праблематыцы, не ў кошце паліва, і нават не ў часовых нязручнасцях, калі праводзяцца начныя трэніроўкі. Дзень Незалежнасці — гэта святое свята, напоўненае высокім сэнсам. Але гэта не свята беларускіх радыкалаў. Гэта не свята тых, для каго духоўным папярэднікам быў Вільгельм фон Кубе… Нешта падобнае было ў гады вайны. Некалькі дзясяткаў тысяч калабарантаў і мільёны патрыётаў», — заявіў ён.




Верагодна, у Мінабароны ўкладаюць іншы сэнс у словы «сакральнае» і «святое». Думаю, ні адзін ветэран вайны, якіх засталося не так ужо і шмат, не скажа, што для яго «святое» бразганне зброяй на парадзе. Святое — гэта даніна памяці загінулым у той вайне.

Мінабароны, называючы «святым» парад і спасылаючыся на тых жа ветэранаў, ніякім чынам не ўмяшалася ў сітуацыю з Вайсковымі могілкамі ў Мінску. Іх адстойвалі, адстаялі і працягваюць адстойваць выключна валанцёры! Службовыя асобы Мінабароны, дый наогул усё ведамства, маўчалі, калі спецкамбінат пачаў там «упарадкаванне», якое прыводзіла, фактычна, да зносу пахаванняў у тым ліку і партызан, і байцоў, якія ваявалі з фашызмам.

> **Думаю, ні адзін ветэран вайны, якіх засталося не так ужо і шмат, не скажа, што для яго «святое» бразганне зброяй на парадзе**

Прынамсі я не чуў афіцыйнай заявы міністэрства з прапановай, напрыклад, узяць шэфства над пахаваннямі і хаця б два разы на год прыводзіць іх да ладу. Тым больш, што для гэтага ў ведамства ёсць адмысловае ўпраўленне па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў.

У Брэсце на тэрыторыі Вялікага гета горада часоў Другой сусветнай вайны, дзе ўзводзіцца жылы «Прыбужскі квартал», было выяўлена вялікае пахаванне ахвяраў Халакосту. Здавалася б — ахвяры вайны, ці не так? І Мінабароны, калі гаворыць пра «сакральнасць» і «святасць», выхаванне падрастаючага пакалення ў духу патрыятызму і высокія сэнсы, у першую чаргу павінна было б заклапаціцца праблемай вызначэння межаў пахавання і годным перапахаваннем парэшткаў ахвяр. Тым больш, што ў яго для гэтага ёсць 52-гі асобны спецыялізаваны пошукавы батальён.

Хто-небудзь што-небудзь чуў пра ініцыятыву дзяржаўнага ведамства з той нагоды?

Чаму ўсталяванне помнікаў карэліцкім партызанам дамагаецца краязнаўца Алесь Самец, а не Міністэрства абароны з яго ўпраўленнямі і батальёнамі?

Можа, нам варта адмяніць гэтыя парады? І накіраваць сродкі туды, дзе яны сапраўды важныя і патрэбныя? І хадзіць з ветэранамі не на «абкатку тэхнікі», а да сапраўды дагледжаных магіл іх пабрацімаў? Проста пацвярджаючы лозунг, што «ніхто не забыты і нішто не забытае»? Праўда, арганізатары парадаў, падобна, пра нешта такое і забыліся…

# Пра тое, дзе праўда, сведчаць дзве вяхі — 14 траўня 1995 і 4 красавіка 2019

Зміцер ДАШКЕВІЧ

**Для мяне 14 траўня 1995 года — пераломны дзень у найноўшай гісторыі Беларусі і пераломны дзень у маім жыцці.**

Каб не рэферэндум аб змене дзяржаўнай сімволікі, мне б ніколі і ў галаву не прыйшло далучацца да нейкіх палітычных рухаў. Калі на адміністрацыі Лукашэнкі дралі бел-чырвона-белы сцяг, мне было 13 гадоў. Я не мог зразумець, як народ выракаецца такога прыгожага сцяга? Тады я не ведаў пра тое, што гэта і не галасаванне было, а антыканстытуцыйны пераварот — чаго толькі вартая акцыя па збіцці дэпутатаў парламента ў самім парламенце, не кажучы ўжо пра іншыя беззаконні. Але тады, у 13 гадоў, мне проста здавалася, што людзі выракаюцца найважнейшага, — і я плакаў.

Менавіта тыя дзіцячыя слёзы прывялі мяне потым у «Малады фронт» і натхнілі прайсці ўсё тое, што я прайшоў. Азіраючыся на апошнія 18 гадоў, я ні пра што не шкадую, нават пра 5 гадоў бадзяння па камерах, этапах і зонах. Каб давялося прайсці гэты шлях наноў, я б ішоў.

Але ідуць гады, мяняюцца расклады. Нечакана некаторыя персанальныя інтарэсы Лукашэнкі — маніякальная прага ўлады над краінай, — супалі з нацыянальнымі інтарэсамі народа — незалежнасцю гэтай самай краіны. Што рабіць у такой сітуацыі: стаяць у супраціве ці кінуцца дапамагчы яму хоць чым-небудзь? Бо палітыкі — яны прыходзяць і хутка сыходзяць, а дзяржавы — застаюцца на вякі. Тым больш штурхае да такіх настрояў і стан апазіцыі: 25 гадоў біцца ў паветраны млын і нічога не выбіць — гэта трэба ўмець, і гэта можа расчараваць любога. А тут — бяры і рабі хоць што-небудзь. Я доўга і пакутна разважаў пра гэта, асабліва на піку расійскай інтэрвенцыі ва Украіну.

І я вам скажу так: я мог бы адным з першых кінуцца ў шэрагі бээрэсэмаў ці белых русяў, каб не адна акалічнасць — разадраны 14 траўня 1995 года нацыянальны сцяг. Бел-чырвона-белы сцяг — гэта тая мяжа, якая падзяляе дабро і зло.

Але ідуць гады, мяняюцца расклады. І вось мы бачым былых палітычных апанентаў рэжыму, якія пасля чарговай селектарнай нарады са слязьмі на вачах распавядаюць пра захапленне і параўноўваюць яе з не абы-чым, але аж з абвяшчэннем 10-мільённым народам Незалежнасці. Людзі, якія яшчэ нядаўна распавядалі, як напярэдадні рэфэрэндуму–95 іх збіваў спецназ і бандыты ў масках выціскалі ў авальнай залі ім вочы — рэзка пра ўсё гэта забыліся. І недзе іх можна зразумець, яны добра гавораць: на карце незалежнасць Беларусі. А клопатам пра ўласную краіну, як мы ведаем, можна апраўдаць усё на свеце.

Але 4 красавіка 2019 года Нябёсы нагадалі нам, дзе праўда, а дзе хлусня: дзяржаўныя вандалы на спецтэхніцы з анучамі на нумарах вывернулі са змучанай курапацкай зямлі 70 крыжоў. Гэта быў настолькі шакуючы нават для «экспартнай дыктатуры» акт вандалізму, што для многіх ён пераўзышоў вандалізм 14 траўня 1995 года. Аж закрычалі камяні, аж праваслаўныя святары загаласілі да актывістаў бээрэсэма і белых русяў: «Ідзіце да сваіх духоўнікаў і пакайцеся».

Я доўга і пакутна разважаў над сэнсам дзяржаўнага вандалізму ў Курапатах. Але наша частая праблема ў тым, што мы хочам рацыянальна зразумець ірацыянальную сістэму — і гэта не працуе. Таму ніякага сэнсу мы ніколі не знойдзем: драць на шматкі бел-чырвона-белы сцяг, напляваўшы ў душы мільёнам беларусаў, — гэта ідыятызм для мазгоў здаровага чалавека; вырываць бульдозерамі крыжы ў Курапатах, зневажаючы веру мільёнаў беларусаў, — гэта вар'яцтва для рацыянальнага розуму.

Але, калі гісторыя — гэта не хаос і не збег незразумелых абставінаў, але лагічны і заканамерны працэс, то павінна ж быць тлумачэнне. І яно ёсць. Падзеі 14 траўня 1995 і 4 красавіка 2019 адбыліся не для таго, каб мы тлумачылі дзеянні злачыннай сістэмы, а для таго, каб кіравалі сваімі дзеяннямі.

Я адчуваю гэта і думаю, гэта адчуваюць цяпер многія: мы жывём у нейкі пераломны час. Падобны на той, які праходзіў наш народ стагоддзе таму, калі зладзеі жэрлі адзін аднаго — і гэта дало нам магчымасць узняцца і абвесціць сябе незалежнымі. Сёння, калі зладзеі Масквы і зладзеі Мінска грызуць адзін аднаго, такая моцная спакуса — стаць на баку «сваіго». І многія стануць.

Але хто можа пачуць гэта сёння, калі ўяўны палітычны момант становіцца важнейшым за праўду, пачуйце: разгортваецца бойня паміж двума зладзеямі, і хто ўвяжацца ў яе, падзеліць і зладзейскую ўзнагароду. А з іхняй бойні панікаваць не трэба, і не трэба мітусіцца. Трэба рабіць тое, што стараліся рабіць бацькі-заснавальнікі БНР — будаваць. Памятаючы, што ў будынку, які стаіць на Праўдзе, зацікаўленыя не толькі і нават не столькі мы, колькі Той, Хто на Праўдзе пабудаваў гэты свет. А пра тое, дзе праўда, сёння сведчаць нам дзве вяхі найноўшай гісторыі Беларусі — 14 траўня 1995 і 4 красавіка 2019.

facebook.com

# «Апошняе кітайскае...» па-беларуску

Алесь КІРКЕВІЧ

**На працягу 1950–1960-х гадоў амерыкана-кітайскія адносіны выглядалі як даволі напружаныя. Урад ЗША наўпрост не вызнаваў КНР, а ягоныя самалёты-выведнікі рэгулярна парушалі кітайскія межы. Пекін нерваваўся і па дыпламатычных каналах выдаваў Вашынгтону папярэджанні, нічога іншага са свайго боку не робячы.**

У выніку да 1964 года такіх папярэджанняў накапілася блізу... тысячы. Папярэджанні нумараваліся, кожнае наступнае было «апошнім», пры гэтым разляталася па інфармацыйных агенцыях: «725-е кітайскае папярэджанне», «867-е апошняе кітайскае папярэджанне» і г.д. Тыя падзеі і крызіс у амерыкана-кітайскіх стасунках канулі ў Лету, але камічны выраз застаўся.

Добра памятаю лістапад 2010 года і мітынг «Сыходзь» у цэнтры Мінску. Тады Зміцер Дашкевіч трансляваў у мегафон, маўляў, мы, пратэстоўцы, даем рэжыму «апошняе кітайскае папярэджанне». Зміцер, канешне, памыліўся з вырасам, але сэнсоўна так і атрымалася: праз месяц-паўтара мы абодва грэлі спінамі турэмныя нары (ён у Жодзіна, я ў «амерыканцы»), а рэжыму тыя папярэджанні як гарох аб сцяну.

Апошнім часам тэма ўльтыматумаў і папярэджанняў у Беларусі зноў актуалізавалася. Спачатку Анатоль Лябедзька даў Лукашэнку 24 гадзіны, каб той адказаў на пытанні суайчыннікаў, карыстальнікаў сацыяльных сетак. «Я запрашаю вас у прамым эфіры адказаць на 25 пытанняў, іх зададуць вам людзі, грамадзяне, падаткаплацельшчыкі Беларусі. У вас ёсць 24 гадзіны (...), час пайшоў. Гэта народны дэдлайн!» — прамаўляў у відэа былы лідар АГП.

Прайшоў роўна месяц з таго звароту, але рэакцыі з боку ўладаў, зразумела, ніякай. На што разлічваў сп. Анатоль? Магчыма, на дэбаты на стадыёне «Дынама»? Ці на круглы стол кіраўніка дзяржавы з грамадзянамі і падаткаплацельшчыкамі? Зрэшты, сама форма падачы «народнага дэдлайну» вельмі нагадала перадвыбарчыя ролікі і рыторыку Уладзіміра Зяленскага, але ж... Беларусь — не Украіна, а Анатоль Уладзіміравіч — зусім не ўчорашні комік з «95-га Кварталу».

Значна больш сур'ёзным і рашучым выглядаў ультыматум экс-палітвязня, прадпрымальніка з «афганскім» мінулым Мікалая Аўтуховіча, выкладзены ў Facebook на пачатку траўня. У заяве было зусім не пра пытанні падаткаплацельшчыкаў, без хайпу і медыйных штучак, але чорным па белым: Лукашэнка мае сысці з пасады цягам 30 дзён, інакш адбудуцца нейкія «падзеі», вынікам якіх мае стаць «аднаўленне справядлівасці».

«Я прымаю цяжкае, але ўзважанае рашэнне ўзяць на сябе адказнасць за будучыя падзеі, планаваннем і падрыхтоўкай якіх я займаўся доўгія гады ў няволі і апошнія гады пасля вызвалення. Я прад'яўляю гэтаму рэжыму ўльтыматум ад свайго імя і ад імя каманды сваіх аднадумцаў, якія гатовыя ўстаць побач са мной у барацьбе з беззаконнем», — піша Аўтуховіч.

Былі і іншыя ўльтыматумы, менш раскручаныя ў СМІ. Пра што гэта ўсё сведчыць? Навошта патрэбныя заявы, пасля якіх, найчасцей, анічога не адбываецца?

Мяркую, што гаворка чарговым разам пра крызісны стан грамадства і дыялог з дзяржавай. Бо ўльтыматум — гэта заўжды маналог ва ўмовах, калі размова не тое што не атрымліваецца, яе наўпрост няма. Ультыматум — нешта накшталт суіцыду, акт адчаю, той самы біблійны «самотны кліч у пустыні». Карацей, скрайняя мера.

Скрайняй мерай для зэка падчас невыносных умоваў утрымання ў турме ці калоніі ёсць галадоўка альбо «ўскрыццё». Акт поўны трагічнай мужнасці, самаадмаўлення ды плявок у пысу канваіра. Скрайняя мера для палітыка — гэта ўльтыматум свайму апаненту. Іншая справа, што ўльтыматум — гэта пазіцыя сілы. Апанент яго выконвае альбо ўступае ў перамовы, бо баіцца наступстваў. А чаго баяцца ўладам у дадзеным выпадку?

Улады самі традыцыйна дзейнічаюць з пазіцыі сілы, разумеюць толькі мову сілы ды эканамічных выгодаў. І ўлады акурат, у дадзенай сітуацыі, аказваюцца «ў плюсе». Чаму? Бо мы крытыкуем гэтыя самыя ўлады за тое, што словы ў іх разыходзяцца з дзеяннямі. Абяцанні «ўсім па 500», мантры пра эканамічны рост і паспяховую моладзевую палітыку — усё гэта толькі словы, не падмацаваныя дзеяннямі. А тут апаненты гэтай самай улады са сваімі ўльтыматумамі і «апошнімі кітайскімі папярэджаннямі» ў вачах нават сваіх прыхільнікаў стаюць на тую самую слізкую сцежку. У чым тады розніца?

У дадзеным кантэксце мне акурат падабаецца сённяшні Зміцер Дашкевіч. Без гучных заяваў. Працуе. Утрымлівае сям'ю. Робіць у грамадскім плане тое, што лічыць належным: крыжы ў Курапатах, «Праспект нацыянальнага сцяга», «Ноч растраляных паэтаў» і г.д. Сказаў — зрабіў. І гэтыя справы застануцца, зерне прарасце нават на неўрадлівай беларускай глебе, а вось бясконцыя ўльтыматумы застануцца недзе ў далёкай шуфлядзе гісторыі, побач з хронікай амерыкана-кітайскага канфлікту.

# Міхаіл Жамчужны напісаў пра «адлігу»

**Праваабаронцы атрымалі ліст ад палітвязня, у якім ён піша, што ўмовы адбыцця пакарання ў яго палепшыліся.**



Па словах Жамчужнага, са зменай кіраўніцтва калоніі палітыка ў дачыненні да яго «пацяплела» — стала добразычліва-ветлівай, прынамсі вонкава. На яго звароты пачалі адказваць пісьмова і са спасылкамі на законы. Больш за тое, яму дазволілі без чаргі атаварвацца ў краме, перасталі шукаць пыл на тумбачцы і павуцінне пад батарэяй.

«Кожны тыдзень, у панядзелак, у камеру заходзіць начальнік калоніі і цікавіцца пытаннямі майго знаходжання. Такога нідзе ніколі не было!» — дзівіцца Жамчужны, які пабыў ужо практычна ва ўсіх беларускіх калоніях і турмах.

Штодзень аб 11-й медыкі цікавяцца станам яго здароўя. Дазволілі купіць вітаміны за свой кошт — гэтага палітвязень дамагаўся паўтара гады. Наладзілася і перапіска — да адрасатаў даходзяць лісты без ранейшых праблемаў. Але пісаць ён стаў настолькі больш, што ў палітвязня ўжо скончылася папера. Жамчужны піша, што не страчвае надзеі пабачыць свае артыкулы ў незалежнай прэсе. Апошнім часам ён дасылаў артыкулы ў «Народную волю», «Белгазету» і «Новы Час».

***Ад рэдакцыі:** «Новы Час» гэты ліст не атрымліваў.*

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Выпаленая зямля, ці Ёсць надзея?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Дзяржаўная палітыка, якая цяпер рэалізуецца, можа займець уласнае азначэнне ў паліталагічнай навуцы — «палітыка вынішчэння». Айчынная асаблівасць — вынішчаецца сваё: гістарычная памяць, бізнес, медыцына...**




Фота Арцёма Лявы

Пасля кароткага перадыху ў змаганні з Курапатамі ўлады аднавілі наступ на ўрочышча. Відавочна, кіраўнік дзяржавы ўспрыняў грамадскую актыўнасць па абароне мемарыялу як асабістую абразу і вырашыў раздушыць «ворагаў народа» ды сцерці памяць пра злачынствы камуністаў у Курапатах. Інакш нельга ўспрымаць задуму пабудаваць побач з Курапатамі Нацыянальны выставачны цэнтр.

Па даручэнні кіраўніка дзяржавы такі цэнтр павінен быць створаны цягам двух гадоў. Пад будаўніцтва ўжо пазначылі кавалак зямлі ў мінскіх ваколіцах побач з «Экспабелам». Як высвятлілі журналісты, адзіны магчымы свабодны кавалак зямлі — менавіта той, што месціцца між урочышчам і «Экспабелам». Больш за тое, выдзелены надзел праходзіць наўпрост па «дарозе смерці» — шляху, якім у 1930-я гады небаракаў везлі на расстрэл.

Абаронцы Курапатаў ацанілі гэтае рашэнне як здзек з памяці ахвяраў рэпрэсій і абвясцілі, што будуць усімі магчымымі сродкамі змагацца з будаўніцтвам. Адзін з лідараў КХП-БНФ Алесь Чахольскі распавёў, што ў полі між Курапатамі і «Экспабелам» у будучыні мусіў паўстаць Музей памяці, але ні ў якім разе не выстава трактароў, сабак ці сельгаспрадукцыі.

Рацыянальных прычын будаваць выставачны цэнтр менавіта ля «Экспабела» няма — не самы зручны даезд, лагістыка. Пустуе адпаведны цэнтр у самім Мінску, дый фармат выставаў паціху губляе актуальнасць. Дык навошта? Як трапна выказаўся адзін з колішніх лідараў «Маладога фронту» Мікалай Дземідзенка: «Хочацца пабудаваць толькі там, і няважна што».

Пасля нядаўняга крыжалому, які балюча адгукнуўся ў сэрцах усіх, хто перажывае за Курапаты, многія пачалі параўноўваць Лукашэнку з егіпецкім фараонам са Старога Запавету. Усім вядомая гісторыя, калі габрэі шмат разоў прасілі фараона адпусціць іх з прыгнёту, той жа адмаўляў, станавіўся яшчэ больш жорсткім ды здзяйсняў неадэкватныя ўчынкі. Вынік таксама ўсім вядомы — габрэі ўсё ж атрымалі свабоду, а фараон і яго нашчадак загінулі. Мажліва, будучы гісторыкам па адукацыі, Лукашэнка здолее правесці гістарычныя паралелі і зробіць для сябе пэўныя высновы.

Вайна з памяццю — заведама пройгрышная, але аслепленыя ўладай гэтага не разумеюць і могуць здорава напаскудзіць, чым дададуць пасля працы па прыборцы краіны ад вынікаў 25-гадовага кіравання.

Тым часам айчынныя прадпрымальнікі ўжо зрабілі высновы наконт мэтазгоднасці весці бізнес у беларускіх умовах. Паводле апытання грамадскага аб'яднання «Перспектыва», амаль палова ІП — 46% — гатовыя закрыць бізнес цягам бліжэйшага часу, 40% збіраюцца з'язджаць за мяжу і весці справу там. Амаль усе — 92% апытаных — лічаць, што індывідуальных прадпрымальнікаў проста вынішчаюць як клас. Даследаванне таксама паказала, што малы бізнес старэе — большасці іпэшнікаў ужо за 45 гадоў, а маладыя ісці ў ІП не жадаюць.

> **Лекар Светлагорскай ЦРБ Ігар Таўтын, крытыкуючы мізэрныя сумы, якія выдаткоўваюцца на медыцыну, звярнуўся з просьбаю ахвяраваць на шпіталь, каб той мог набываць медыцынскае абсталяванне**

Цікава, што 51% жадаючых закрыць бізнес — з Мінску і Мінскай вобласці, хаця жыхары рэгіёнаў часта папракаюць калегаў са сталіцы, што ў Мінску працаваць лягчэй. Цяжка паусюль — і таму яшчэ напачатку года іпэшнікі па ўсёй краіне збіралі подпісы пад зваротам да кіраўніка дзяржавы. Яны сабралі амаль 7 тысяч аўтографаў, якія перадалі ў Адміністрацыю кіраўніка дзяржавы — каб арганізаваць сустрэчу, асабіста пагаварыць пра праблемы малога бізнесу. Прайшло паўгода — сустрэча так і не адбылася, нават не прызначаная яе дата. Хатка, хатка, павярніся нарэшце да лесу задам, а да прадпрымальнікаў перадам!

Яшчэ менш аптымістычна ідуць справы ў сацыяльнай сферы, у прыватнасці ў медыцыне. Надзвычайную мужнасць выявіў галоўны лекар Светлагорскай ЦРБ Ігар Таўтын, даўшы інтэрв'ю газеце «Светлагорскія навіны». Крытыкуючы мізэрныя сумы, якія выдаткоўваюцца з дзяржбюджэту на патрэбы медыцыны, ён звярнуўся да прадпрымальнікаў, прадпрыемстваў і гараджан з просьбаю ахвяраваць грошы на адмысловы рахунак, каб шпіталь мог набываць медыцынскае абсталяванне. Бо ва ўсім Светлагорску — толькі 5 апаратаў УГД, але яны ўсе маюць 100% знос. Аўтапарк хуткай медыцынскай дапамогі, што складаецца з 13 аўто, зношаны на 80%.

Відавочна, гэта паказальны малюнак для ўсёй перыферыйнай медыцыны. Тэхніка, якая набывалася альбо дарылася замежнымі фондамі дзесяцігоддзі таму, састарэла, а набыць новую грошай няма. Застаецца ці чакаць, пакуль замежнікі падораць новую, ці прасіць міласціны ў гараджан.

Вось цікава, Міндзароўя не сорамна чытаць такія рэчы? Можа, сорамна супрацоўнікам Вярхоўнага суда, дзе адна жырандоля ў галоўным холе каштуе амаль 200 тысяч рублёў? Калі дадаць яшчэ кошт жырандолі ў залі пасяджэнняў — 40 тысяч рублёў — якраз можна было б набыць у Светлагорскі шпіталь новую лапараскапічную стойку, якая так патрэбная лекарам і пацыентам. А калі б зэканомілі на фантане перад будынкам суда за 600 тысяч рублёў — яшчэ і на 10 новых апаратаў УГД хапіла б.

Чытачы цяпер варожаць, як улады адплацяць галоўнаму лекару за шчырасць: пасадзяць у турму ці проста звольняць. Варыянт, што лякарні выдаткуюць сродкі на набыццё новай тэхнікі, ніхто і не разглядае. Такая ў нашых чыноўнікаў рэпутацыя.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алена Анісім



**Улады фактычна заблакавалі прыняцце распрацаванага Таварыствам беларускай мовы законапраекта пра падтрымку беларускай мовы.**

На імя дэпутаткі Палаты прадстаўнікоў і старшыні ТБМ прыйшлі лісты з Нацыянальнага цэнтру заканадаўства і прававых даследаванняў і Міністэрства юстыцыі. Дырэктар цэнтра Вадзім Іпатаў паведаміў, што праект закону «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы» не ўключаецца ў план падрыхтоўкі законапраектаў для абмеркавання дэпутатамі ў 2020 годзе. Іпатаў абгрунтаваў гэта тым, што «зацікаўленыя дзяржорганы» лічаць, што «пытанні ўжывання беларускай мовы ўрэгуляваныя дзейным заканадаўствам у адпаведнасці з Канстытуцыяй». Міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі лічыць неабгрунтаванай падрыхтоўку законапраекту, паколькі «не назіраецца неабходнасці ў змене існуючага заканадаўства».

Анісім заявіла, што ні яна асабіста, ні ТБМ працу над праектам закона «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы» не спыняць. Яна лічыць, што найбольш важнае ў дакуменце — захады дзеля таго, каб выраўняць становішча з беларускай мовай, якое склалася ў грамадстве, асабліва ў стасунках з дзяржаўнымі органамі; каб вярнуць ёй статус дзяржаўнай мовы і напоўніць гэты статус адпаведным зместам.

## Уладзімір Някляеў



**Паэт і палітык цяпер знаходзіцца ў Швецыі, у горадзе Лундзе. Выданне «Sydsvenskan» паведаміла, што беларускі аўтар атрымаў статус пісьменніка-ўцекача. Гэта выклікала безліч інсінуацый.**

Як паведамілі шведскія СМІ, Някляеў атрымаў двухгадовую стыпендыю і бясплатнае пражыванне ў Лундзе. «Праграма накіраваная на падтрымку пісьменнікаў, якія падвяргаюцца цэнзуры або пераследу ў сваёй краіне», — пішуць шведы.

Уладзімір Някляеў адзначыў, што «гэта ні ў якім разе не эміграцыя». «Запрашэнне ад шведаў у мяне было, але я не мог ім скарыстацца з прычыны рознага роду спраў у Беларусі. Пасля аб'явы, што прэзідэнцкія выбары адбудуцца не ў гэтым годзе, я вырашыў скарыстаць магчымасць. Спадзяюся, за гэты час дапісаць раман пра Янку Купалу».

На пытанне, колькі ён плануе прабыць у Лундзе, пісьменнік адказаў: «Лета дакладна буду, а там як атрымаецца».

## Глеб Рубанаў



**ІТ-кансультант быў аштрафаваны нават не за рэпост ці каментар у сацыяльнай сетцы Фэйсбук, а за спасылку на матэрыял, які ўтрымлівае абрэвіятуру, прызнаную экстрэмісцкай.**

«Мне інкрымінавалі размяшчэнне абрэвіятуры ў каментарах на старонцы Hleb Rubanau. Тэхнічна гэта выглядае так: каментар ад імя Hleb Rubanau пад допісам утрымлівае спасылку на допіс іншага карыстальніка. Сацсетка аўтаматычна адлюстроўвае перадпрагляд допісу таго карыстальніка, на якога ідзе спасылка, і ў межах гэтага перадпрагляду бачнае фота, на якім выяўлены плакат з абрэвіятурай. Нават калі той карыстальнік зменіць фота ў сваім допісе (напрыклад, дадасць выяву з забароненай абрэвіятурай), яна гэтак жа зменіцца і ў паведамленні карыстальніка Hleb Rubanau», — патлумачыў спецыяліст.

Але супрацоўнікі міліцыі не сталі высвятляць, хто распаўсюдзіў першапачатковы допіс, на які спаслаўся Рубанаў, а ўзяліся за яго. Двойчы пратаколы на яго накіроўваліся ў суд, і двойчы суд іх адхіляў. 7 траўня сярод ночы Рубанава папрасілі выйсці на вуліцу, каб агледзець яго аўтамабіль. Пасля агляду яго завезлі ў Савецкі РУУС, а потым — у ЦІП на Акрэсціна, дзе Рубанаў правёў 30 гадзін, і быў вызвалены. Суд быў прызначаны на 16 траўня, але 11 траўня яго зноў выклікалі ў РУУС і склалі новы, ужо трэці пратакол. Разгляд прызначылі на 13 траўня.

У выніку суддзя суда Савецкага раёна Мінска Вера Галаўкова аштрафавала ІТ-спецыяліста на 40 базавых велічынь.

# Дзесяць гадоў з правам перапіскі

Сяргей ПУЛЬША

**Роўна 10 гадоў споўнілася такой ініцыятыве Еўрасаюза, як Усходняе партнёрства. На юбілейны саміт у Брусель накіравалі міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, хоць павінен быў паехаць Аляксандр Лукашэнка.**



Фота www.masheka.by

Уладзімір Макей растлумачыў гэта проста: «Прыйдзе час — прыедзе і кіраўнік дзяржавы. Пакуль мы не можам казаць, што мы дасягнулі высокага ўзроўню развіцця нашых адносін з Еўрапейскім саюзам». Пытанне толькі — чаму не дасягнулі?

### Усё добра пачыналася

Варта нагадаць, што такое Усходняе партнёрства. Гэта праграма ЕС, якая была накіраваная на развіццё інтэграцыйных сувязяў Еўрасаюза з шасцю краінамі былога СССР: Азербайджанам, Арменіяй, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай. Яна разглядалася як усходняе вымярэнне еўрапейскай палітыкі суседства, што была ініцыяваная Еўрасаюзам у дачыненні да сваіх «новых суседзяў» пасля пашырэння ў траўні 2004 года. Асноўнымі прыярытэтамі рэформ у краінах-партнёрах былі названыя дэмакратыя, удасканаленне сістэмы кіравання і забеспячэнне стабільнасці; эканамічная інтэграцыя і канвергенцыя з галіновай эканамічнай палітыкай ЕС, уключаючы стварэнне зон свабоднага гандлю; энергетычная бяспека; развіццё кантактаў паміж людзьмі (лібералізацыя візавага рэжыму і ўзмацненне барацьбы з незаконнай міграцыяй).

У перспектыве праграма прадугледжвала заключэнне двухбаковых пагадненняў паміж ЕС і краінамі-партнёрамі аб асацыяцыі, што павінна было стаць крокам на шляху іх далейшай інтэграцыі ў еўрапейскую прастору.

А паколькі першым прыярытэтам была названая «дэмакратыя», пад гэта былі створаны і пэўныя структуры. Напрыклад, Форум грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства, лідзіруючыя пазіцыі ў якім адзін час займалі арганізацыі грамадзянскай супольнасці Беларусі.

Аднак у выніку толькі тры краіны — Грузія, Малдова і Украіна — парафіравалі пагадненне аб асацыяцыі з ЕС. Прычым, у дачыненні да Украіны — адмысловая гісторыя. Менавіта адмова экс-кіраўніка дзяржавы Віктара Януковіча на віленскім саміце Усходняга партнёрства ў 2013 годзе падпісаць такое пагадненне выклікала Майдан зімы 2013–2014 года. І, адпаведна — Рэвалюцыю годнасці, уцёкі Януковіча з краіны і вядомыя падзеі, што рушылі за гэтым...

### Партнёрства — пытанне ўзаемнае

Афіцыйны Мінск разглядаў гэтую праграму як «рацыянальны бонус» для краіны, і на першы план вылучаў не яе прыярытэт — збліжэнне з ЕС і дэмакратыю, — а эканамічныя выгоды для сябе. Напрыклад, уладам вельмі падабаліся пытанні процідзеяння міграцыі, стварэнне зон свабоднага гандлю, энергетычная бяспека і «ўдасканаленне сістэмы кіравання».

У дачыненні да апошняй — дзясяткі беларускіх чыноўнікаў пабывалі на тэматычных семінарах у Еўропе. Але нейкіх адчувальных вынікаў гэта не прынесла па простай прычыне: беларуская аўтарытарная мадэль і сістэма дэмакратычнага кіравання Еўропы мала сумяшчальныя.

**Пра тое, што «праца над візавым пагадненнем практычна завершаная» і «ўсё будзе вырашана бліжэйшым часам», мы чуем ужо не адзін год. Аднак знаходзяцца падводныя камяні, з-за якіх рашэнне аб падпісанні пагаднення ўсё адкладаецца**

Нават рашэнне аб спрашчэнні візавага рэжыму, на што спадзяваліся шараговыя грамадзяне краіны, неапраўдана зацягнулася. Улады не вельмі зацікаўленыя ў гэтым. Чалавек, які на свае вочы пабачыць узровень жыцця і коштаў на «загніваючым Захадзе» і ў «моцнай і квітнеючай Беларусі», непазбежна стане скептычна ставіцца да таго, што яму транслюе беларускае тэлебачанне.

Да «не вельмі прасунутага» стаўлення Мінска адносна Усходняга партнёрства дадаюцца яшчэ два фактары. Першы — Расія ўспрыняла ідэю праграмы «ў штыхі», бо палічыла яе (і лічыць да гэтага часу) умяшаннем у сваю «зону ўплыву». Маўляў, гэтая ініцыятыва накіраваная на тое, каб адцягнуць ад Расіі падкантрольныя ёй тэрыторыі, а пасля — і вырваць іх з гэтай зоны (што збольшага праўда). І пачала актыўны супраціў ініцыятыве, што ва ўмовах Беларусі мела асаблівае значэнне.

Другі фактар — прынцып Усходняга партнёрства «большае за большае». Гэта азначае: чым больш краіна праводзіць рэформаў, тым больш дапамогі атрымлівае. Улады Беларусі ж і па сёння не збіраюцца праводзіць ніякія рэформы: ні эканамічныя, ні палітычныя. Таму краіна, па сутнасці, апынулася «на задворках» Усходняга партнёрства. І пра гэтую праграму, на якую ўскладаліся вялікія надзеі, цяпер нават амаль забыліся.

Прычым, палітыка Беларусі ў адносінах да УП наўрад ці змянілася. На гэтым юбілейным саміце Усходняга партнёрства той жа Макей, як паведамляе прэс-служба МЗС, высунуў сем прапаноў: скасаваць «штучныя фармальнасці» пры перасячэнні мяжы з ЕС, якія прыводзяць да чэргаў на мяжы; да 2030 года павялічыць экспарт краін УП у ЕС і аб'ём інвестыцый ЕС у краіны УП утрая; у наступныя дзесяць гадоў павялічыць колькасць створаных ЕС працоўных месцаў у краінах УП удвая; рэалізаваць у кожным горадзе як мінімум адзін праект па энергаэфектыўнасці; стварыць у Еўрапейскім інвестыцыйным банку спецыяльнае «акно» для праектаў Усходняга партнёрства або спецыялізаваны банк УП; актывізаваць супрацоўніцтва ў лічбавай сферы, заснаваць IT-школу УП у Мінску; правесці ў Мінску мерапрыемства высокага ўзроўню з нагоды 10-годдзя УП.

Як бачым, усе прапановы тычацца эканомікі, транспамежнага супрацоўніцтва, фінансаў або бюракратыі. Пра нейкія рэформы ў стылі «большае за большае» гаворкі не ідзе.

### Дасягненні ёсць?

Былы сустаршыня Кіруючага камітэта Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства Улад Вялічка таксама крытычна ацэньвае дасягненні Беларусі ў праграме. Па яго словах, Беларусь абмежавалася «малым прагрэсам». Калі пачыналася праграма Усходняга партнёрства, у яе былі два кірункі: нармалізацыя стасункаў з краінамі-ўдзельніцамі і пытанні еўраперспектывы. Тыя, хто ўсур'ёз пайшлі «па максімуме» — па пытаннях еўраперспектывы — тыя максімальна і атрымлівалі. Беларусь жа не гатовая была праводзіць еўрапейскія рэформы як у плане палітыкі, так і ў плане эканомікі, і чакала толькі інвестыцый, хаця ў праграмы вялікіх грошай не было ніколі. І таму ўсё супрацоўніцтва, па словах Вялічкі, звялося да ўдзелу ў шэрагу рэгіянальных інфраструктурных праектаў.

«Апроч таго, у Беларусі дагэтуль адсутнічае двухбаковае пагадненне пра супрацоўніцтва краіны з ЕС. Большасць краін не толькі УП, але і постсавецкай прасторы, такія пагадненні маюць (напрыклад, Расія). У нас жа дагэтуль абмяркоўваюцца так званыя «партнёрскія прыярытэты», якія не ёсць нармальным пагадненнем з ЕС пра двухбаковыя стасункі, а, хутчэй, нефармальным пагадненнем», — адзначае Вялічка. Таму, Беларусь ва УП удзельнічае ў межах «шматбаковага вымярэння», а не ў больш выніковым двухбаковым. У тым ліку і таму мы абмяжоўваемся «малым прагрэсам».

Ці не пяць гадоў у развіцці стасункаў з Еўропай у нас скраў крызіс 2010 года, калі, праз вынікі прэзідэнцкіх выбараў, брутальны разгон пратэстаў і з'яўленне ў Беларусі новых палітвязняў, адносіны краіны з ЕС значна пагоршыліся.

Але не ўсё так кепска, лічыць эксперт. «Галоўны геапалітычны вынік удзелу Беларусі ва Усходнім партнёрстве — тое, што краіна праз гэтую праграму ўспрымаецца як самастойны гулец. Канешне, са сваімі прыярытэтамі, са сваімі складанасцямі. Але нагадаю: раней быў падыход да Беларусі, як і да іншых краін экс-СССР, размаўляць пра іх праз Расію. Зараз такога няма, і гэта істотны, вельмі важны вынік з пункту погляду суверэнітэту краіны», — адзначыў Вялічка.

Што ж да далейшых перспектыў Беларусі ва Усходнім партнёрстве, то яны пакуль цьмяныя. І з прычыны адсутнасці таго самага двухбаковага пагаднення, і з прычыны таго, што Беларусь не хоча праводзіць рэформы. Дый у Еўропы за дзясяцігоддзе змяніліся прыярытэты — яна хоча бачыць побач з сабой стабільных і надзейных партнёраў, з якімі праблем не будзе і надалей. А пра Беларусь такога не скажаш.

І таму нам яшчэ — доўгі шлях у гэтай праграме. «Перапіска» з Захадам будзе працягвацца.

### І пра візы

Самая турботная праблема для грамадзян Беларусі — візавае пытанне. Асабліва ў рэчышчы апошніх рашэнняў Еўропы пра падаражанне шэнгенскіх віз для грамадзян шэрагу краін. Верагодна, гэта павінна закрануць і Беларусь — і тады шэнгенская віза для грамадзян будзе каштаваць 80 еўра супраць сённяшніх 60-ці.

Па словах Макея, праца над пагадненнямі паміж Беларуссю і ЕС па спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі практычна завершаная. «Проста для таго, каб прыступіць да фінальнай стадыі падпісання, павінна быць пройдзеная адпаведная працэдура і ўнутры ЕС, і ў нас унутры краіны. Павінны быць прааналізаваныя і ўзважаныя ўсе моманты, якія, магчыма, насцярожваюць бакі, — растлумачыў Макей. — Я перакананы, што мы зможам завяршыць гэтую працу бліжэйшым часам».

Адказваючы на пытанне, ці паспеюць бакі заключыць пагадненне да моманту падаражання шэнгенскай візы, Макей сказаў, што ўсе рухаюцца ў гэтым кірунку. «Мы абавязкова паспеем», — запэўніў кіраўнік МЗС Беларусі.

Усё б добра, але пра тое, што «праца практычна завершаная» і «ўсё будзе вырашана бліжэйшым часам», мы чуем ужо не адзін год. Аднак пастаянна знаходзяцца нейкія падводныя камяні і спрэчныя пытанні, з-за якіх рашэнне аб падпісанні пагаднення ўсё адкладаецца і адкладаецца.

Застаецца толькі прытрымлівацца старой мудрасці: рыхтавацца да горшага, але спадзявацца на лепшае.

# Эпілепсія вачыма сківічна-тваравага хірурга

**Кожны можа сутыкнуцца з прыступам эпілепсіі ці іншым сутаргавым станам. На старонцы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў артыкуле за 7 лютага 2019 года колькасць эпілептыкаў ацэньваецца ў 50 мільёнаў чалавек па ўсім свеце, тамсама пазначана, што кожны дзясяты чалавек аднойчы перанёс эпілептычны прыпадак. Уласна эпілепсія — гэта 2 і болей прыпадкаў. Праблема распаўсюджаная, і, на жаль, 80% хворых жывуць у той частцы свету, дзе 70% эпілептыкаў не атрымліваюць належнага лячэння.**

Мудрыя неўролагі даследуюць, што там замыкаецца ў мазгах, і як гэта папярэдзіць, а хірургі разбіраюцца з наступствамі прыпадкаў — разнастайнымі і не ўсім відавочнымі.

Пачнём з таго, што чалавек падае там, дзе заспеў яго прыпадак, губляючы прытомнасць. У такім стане пацыент не можа групіравацца, абіраць накірунак падзення, страхаваць сябе. Таму падчас падзення можа ўдарыцца любой часткай цела і зламаць любую костку.

Падчас прыпадкаў чалавек можа дадаткова біцца галавой аб тое, што пад ім і побач, можа скаціцца з краю. Прыступ можа доўжыцца хвіліны і нават дзясяткі хвілін (таму клічце «хуткую» адразу, не чакаючы, пакуль прыступ міне). Добра, калі навакольныя паклапоцяцца пра бяспеку хворага, але не будуць спрабаваць гвалтоўна спыніць скарачэнне цягліц. Не трэба расціскаць чалавеку зубы лыжкамі ці іншымі металёвымі прадметамі, і вось чаму.

Цягліцы сківіцы развіваюць высілкі па сціскanні зубоў (паводле розных крыніц) ад 100 да 400 кілаграм. Тэарэтычна, вы можаце расціснуць непрытомнаму сківіцы, калі будзеце мець, паводле Архімеда, рычаг і кропку апоры. Толькі кропка апоры ў дадзеным выпадку — гэта зубы. Пры гарызантальнай нагрузцы памерам усяго толькі 16 кілаграмаў здаровыя зубы пачынаюць балець — гэта сігнал перагрузкі. Сігнал, што апорныя тканкі (баляць менавіта яны, а не сам зуб) пачынаюць разбурацца.

А зубы ў эпілептыкаў маюць заведама слабы апорны апарат — гэта пабочны эфект многіх супрацьсутаргавых лекаў. І вось вы налягаеце ўсімі сваімі сіламі на зубы, каб перамагчы спазм цягліц, і... трэскаецца сценка зубной місачкі, рвецца зубная звязка, зуб нахіляецца вонкі. Здаровы зуб здароваму чалавеку можна ўставіць на месца, прыкруціць на які месяц дротам — і спадзявацца, што зуб прырасце і пару гадоў прастаіць. Не тое ў эпілептыкаў. Хранічнае запаленне дзяснаў плюс вострая траўма падчас прыступаў не дадуць рэплантаваным зубам шансу прыжыцца. Трэснутая костка зубной місачкі таксама не заўсёды прыжываецца. Можа пачаць гніць сківіца.


Фота www.spbpmc.ru



**Пра аўтара:**

Алена Церашкова — сківічна-тваравы хірург з амаль 20-гадовым стажам. Час ад часу яна будзе дзяліцца актуальнай інфармацыяй, датычнай стаматалагічнага здароўя, траўмаў і запалення сківічна-тваравай вобласці.

Таму, калі ласка, не засоўвайце ў рот людзям непатрэбныя рэчы, нават калі вам вельмі страшна за іх. Язык — цягліца, падчас прыступу ён сцінаецца ў напружаны камяк і не западае. Проста страхуйце галаву ад удараў, а ў момант, калі прыступ скончыцца, павярніце чалавека на бок: так язык не западзе, калі расслабіцца. Альбо пасуньце крыху наперад сківіцу пацыента: разам з ёй ссунецца і язык.

**Майце на ўвазе:** ачомаецца пацыент не адразу, пэўны час ён будзе ў стане «аглушэння». Потым пачне рухацца, слаба ўсведамляючы, што і як. Прыступ можа неўзабаве паўтарыцца, а нават калі не — пацыент не крытычны да ўласнага стану, і гэта можа замаскіраваць удар мозга ці ўнутрышлонкавую (унутрычарапную) гематому: пацыент неўзабаве ці праз колькі гадзін можа «загрузіцца».

Таму, нават калі хворы рэгулярна наведвае неўролага і прымае прэпараты, трэба выклікаць «хуткую» і везці яго ў шпіталь. Тое, што пацыент не памятае сутаргі, — звычайная рэч. Таму абавязкова давядзіце да яго, што з ім адбылося (сам ён не будзе ведаць, што адбылося, і можа доўга не верыць!). Калі вы не едзеце ў лякарню, падрабязна апішыце прыступ брыгадзе «хуткай».

**Часта стаіць дылема:** чакаць «хуткую» ці везці небараку на асабістым транспарце. Досвед падказвае, што, калі вы не ў тайзе і не на льдзіне пасярод Белага мора, а ў сталіцы нашай радзімы горадзе Мінску, лепей выклікаць «хуткую». У раёне прасцей: там лякарня адна, усе спецыялісты знаходзяцца ў ёй. Калі лякарня блізка, можна рызыкнуць.

Але ў Мінску вы можаце не адгадаць, у якую лякарню везці чалавека. Тут мае значэнне не толькі стан, дыягназ і вашае геаграфічнае становішча, але і паліклініка, дзе абслугоўваецца пацыент, і нават час сутак (не ўсе лякарні маюць начных кансультантаў, у іншых няма магчымасці на месцы правесці тамаграфію). «Хуткая» ўлічвае гэта, а дзеля кантролю набірае тэлефон аддзела шпіталізацыі і (як правіла) вязе туды, куды трэба, гарантуючы дарогай назіранне за станам хворага (памятаем пра верагоднасць паўторнага прыступу) і маючы лекі, якія прыступ здымаюць.

Апроч суровых неўралагічных наступстваў і магчымых пераломаў, часты спадарожнік прыпадкаў — прыкушаны язык. Так, калі зубы сцяліся, а язык застаўся на месцы, ён будзе прыкушаны — і, зазірнуўшы ў рот, мы можам пабачыць альбо рану, з якой цячэ кроў, альбо ацёклы сіня-чорны язык, які ледзьве змяшчаецца ў роце і «прыгажэе» на вачох.

**Што рабіць?** Усё проста: рану трэба зашываць (не-не, пакладзіце напарстак, зашываць такія раны павінны хірургі-стаматолагі ці асабліва дасведчаныя траўматолагі, а не швачкі-матарысткі ды бравыя шаўцы), пажадана зашыць у першыя некалькі гадзін, бо праз тры дні ахвотнікаў гэта рабіць вы не знойдзеце, дый швы трымацца не будуць. Язык — вельмі актыўны орган, таму далікатныя «касметычныя» швы паразвязваюцца ці прарэжуцца. Шыць — дык шыць: добрай ніткай, прашываючы тоўсты слой тканак, далёка адступіўшы ад краю раны. Язык сцерпіць: там выдатнае кровазабеспячэнне. Калі ж язык ацёклы, сіня-чорны, а раны як такой няма, то рабіць з ім непасрэдна нічога не будуць. Але, пры неабходнасці, саб'юць ціск (высокі ціск — больш крыві выцякае, большая гематома, больш выражаны ацёк), увядуць гармоны ці мачагонныя (папярэдзіць рост ацёку, які патэнцыйна можа перашкаджаць дыханню).

З хатніх прафілактычных мераў адзначу холад (смактаць кубік лёду і прыкладваць абгорнуты тканінай пакет з лёдам пад сківіцу — папераменна. Выключыць цеплавыя працэдуры, гарачую ежу ды пітво, не прымаць прэпараты, што паніжаюць згусальнасць крыві, не рабіць тое, што падвышае ціск.

Увага! Калі лекар прапануе пацыенту з прыкушаным языком застацца ў лякарні, так і трэба зрабіць. Калі ўсё будзе ісці як мае быць, пацыент будзе нудзіцца і ныць, што яго толькі трымаюць у лякарні і нічога не робяць, і што такое шчасце ён бы меў і дома. І хай сабе ные, абы папраўляўся, не ведаючы, якія праблемы яго абмінулі. А вы, калі перадасце небараку пад нагляд лекараў, можаце ўздыхнуць з палёгкай.


Фота www.scoopwhoop.com





# Камунізм у сучаснай Беларусі

Таццяна ПРОЦЬКА

**У 1997 годзе ў Францыі выйшла аб'ёмная (780 старонак) «Чорная кніга камунізму». Злачынствы, тэрор, рэпрэсіі. У кнізе сцвярджаецца, што камунізм у свеце адзначыўся 95 мільёнамі ахвяр. У 2001 годзе кніга была перакладзеная на рускую мову і выйшла ў Расіі вялікім на той час накладам у 130 тысяч асобнікаў. Пра камунізм наогул напісана процьма кніг і артыкулаў. Разам з тым, у свеце і Беларусі пашыраецца ўплыў ідэй камунізму, свет «лявее», як пішуць палітолагі.**

## Што такое камунізм?

Перш, чым аналізаваць стан камунізму ў Беларусі, неабходна вызначыць, як беларусы разумеюць гэтае складанае паняцце, і што ёсць сучасны камунізм у Беларусі на самай справе. Іншымі словамі — што такое камунізм на побытавым узроўні і на больш-менш навуковым.

Каб знайсці адказы на першую частку, я арганізавала два апытанні — у сваім аграгарадку Забалоцце, дзе зараз жыву, і ў Мінску, сярод былых і сучасных суседзяў, знаёмых, сяброў, іх дзетак і ўнукаў. Гэта было не тыповае сацыялагічнае апытанне толькі па аднолькавых фармулёўках, але больш размова, каб людзі разумелі дакладна, што мяне цікавіць. І хоць гэтую выбарку нельга лічыць сапраўдным навуковым сацыялагічным даследаваннем і распаўсюджваць на ўсё беларускае насельніцтва, але высновы цікавыя — не ў колькасным плане, але ў якасным.

Значная частка маіх вяскоўых «рэспандэнтаў» станоўча ацэньваюць камунізм, гарадскіх — адмоўна (прыкладна, як +90% і –80%). Вяскоўцы, якія так ці інакш ведаюць пра калектывізацыю, вынішчэнне хутароў (у нас у раёне такіх людзей ужо засталося няшмат, але яны перадалі дзецям сваё стаўленне, хоць і не ўсе) і складаюць 10 адмоўных працэнтаў да камунізму. Станоўча выказаліся пра камунізм так званыя «ідэйныя камуністы» — настаўнікі, былыя супрацоўнікі партапарату, тыя, хто ў савецкія часы добра жылі ў матэрыяльным плане.

Цікава, што жыхары не Мінска, калі казалі пра камунізм, мелі на ўвазе найперш рэальныя падзеі са свайго жыцця (прыгадваюць, як райкам КПБ дапамог, як цікава было ў камсамоле, піянерах і іншае), жыхары Мінска адмоўна ставіліся пераважна да камуністычнай ідэі (як яны яе разумелі), называлі яе ўтапічнай. Моладзь наогул не хацела размаўляць на гэтую тэму, бо лічыла яе не карыснай і не цікавай для свайго будучага жыцця, адказвала тэлевізійнымі штампамі.

Разам з тым, камунізм у сучаснай Беларусі ёсць вынікам амаль 75-гадовага жыцця насельніцтва ў складзе СССР-БССР. Ён не толькі культываваўся дзяржавай, але і быў формай жыцця не менш чым трох пакаленняў. Памяць пра гэтае жыццё, яго найбольш яскравыя старонкі — і ёсць аснова ўяўленняў сучасных беларускіх людзей пра камунізм.

З навуковага погляду (аналізу выступаў кіраўнікоў дзяржавы, прынятых законаў, арганізацыі сістэмы дзяржкіравання, дзяржаўнага выхавання, публікацый у дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, манаграфій, перадач БТ, ушанавання падзей і людзей, твораў мастацтва, у тым ліку літаратуры і іншае) камунізм у сучаснай Беларусі ёсць сукупнасць поглядаў на развіццё эканомікі, палітыкі Беларусі, арганізацыю дзяржаўнага выхавання, нацыянальнае і дзяржаўнае развіццё. Гэтыя погляды складаюцца не толькі з тэарэтычных пасылаў, але ўтрымліваюць і канкрэтныя прапановы дзеянняў. Важна разумець, што яны звязаныя непарыўна — эканоміка дапамагае палітыцы, тэорыя — практыцы, існуюць у камуністычнай сістэме. Дэфармацыя ў адным з блокаў гэтай сістэмы вядзе да змяненняў у іншых. Гэта стварае ілюзію пазбаўлення ад камунізму, але пакуль уся сістэма не разбураная, камунізм працягвае існаваць.

Змяняюцца назвы (напрыклад, прэзідэнт аналагічны пасадзе першага сакратара КПБ, Адміністрацыя прэзідэнта і яе аддзяленні ў рэгіёнах адпавядаюць структурам і дзейнасці ЦК КПБ і райкамаў КПБ,



«варожыя класы» замененыя «апазіцыяй» і іншае), але сутнасць застаецца нязменнай.

Камунізм у сучаснай Беларусі захаваў адметныя рысы савецкага камунізму (можна таксама сказаць «бальшавіцкага камунізму»), у некаторых напрамках яго нават развілі, дый развіваюць дагэтуль.

## Рысы камунізму

Я вызначаю толькі асноўныя адметныя рысы савецкага камунізму, якія з невялікай трансфармацыяй найбольш характэрны для насельніцтва і эліты Беларусі:

1. Разуменне беларускага грамадства як класавага грамадства, наяўнасць «варожых» класаў, груп, неабходнасць іх абмежавання (класічныя прыклады — прадпрымальнікі як «вашывыя блохі», «нацыяналісты», «свядомыя» і іншыя), а народа — працоўных, рабочых, сялян, — як тых, хто заўсёды мае рацыю і падтрымлівае ўладу.
2. Разуменне беларускай дзяржавы як патэрналісцкай (дзяржава павінна забяспечыць кожнаму жыхару пэўны шэраг сацыяльных і палітычных даброт).
3. Татальны характар уздзеяння дзяржавы, у ідэале — на ўсе сферы жыцця чалавека і грамадства, прыярытэт інтарэсаў дзяржавы над любымі іншымі формамі інтарэсаў, і найперш над інтарэсамі асобы.
4. Нівеляванне і прыніжэнне значнасці асобы ва ўсіх сферах дзяржаўнага жыцця, адносіны да чалавека як да «вінціка дзяржаўнай машыны».
5. Бюракратызацыя ўсіх форм дзяржаўнага і грамадскага жыцця, вылучэнне кіруючай бюракратыі ў закрытую касту.
6. Выключная роля спецслужбаў у дзяржаве і грамадстве, апора на іх як на гаранта развіцця, у першую чаргу, эканамічнага і палітычнага;
7. Прыніжэнне ролі прыватнай уласнасці ў эканамічным развіцці, узнаўленне і ўдасканаленне ў Беларусі так званай «нэпаўскай мадэлі камуністычнага развіцця».
8. Наяўнасць у дзяржаве і грамадстве адзінай пануючай ідэалогіі, на падставе якой адбываецца размежаванне на «сваіх» і «чужых», падтрыманне ўладамі гэтага размежавання, арганізацыя барацьбы з «ворагамі» і да таго падобнае.
9. Падыход з боку дзяржавы да ўсіх праяваў нацыянальнага як да варожага, накіраванага на задавальненне інтарэсаў ці варожых класаў, ці варожых дзяржаў.
10. Адносіны да нацыянальнай мовы толькі як да сродку, з дапамогай якога можна больш глыбока ўкараніць у грамадстве пануючую камуністычную ідэалогію і культуру, адпрэчванне наяўнасці ў беларусаў магчымасцяў з дапамогай роднай мовы больш шырока і глыбока адлюстроўваць своеасаблівасці свету, аспрэчванне каштоўнасцяў нацыянальнай культуры, наяўнасці і каштоўнасці для людзей нацыянальнай літаратуры і іншае.
11. Умацаванне і развіццё бязбожжа, «праваслаўнага атэізму» як пануючай рэлігіі.
12. Персаніфікаванае ўяўленне аб магчымасцях дзяржаўнага і грамадскага развіцця, панаванне «культу кіруючай асобы».
13. Выхаванне ў людзей адсутнасці патрэбы ў свабодзе, нівеляванне свабоды як галоўнага дасягнення развіцця адносін паміж дзяржавай і чалавекам, як галоўнай каштоўнасці чалавека.

Асноўныя і неасноўныя рысы камунізму ў сучаснай Беларусі маюць найбольшае ўвасабленне ў наступных формах жыцця чалавека, грамадства і дзяржавы:

- светапоглядзе;
- ідэалогіі;
- культуры;
- маралі;
- адукацыі;
- формах арганізацыі грамадства;
- формах арганізацыі дзяржаўнага кіравання;
- эканоміцы;
- формах уяўленняў пра гістарычнае жыццё Беларусі і беларусаў;
- формах арганізацыі навукі;
- міфах;
- героях, асобах, што патрабуюць грамадскага ўшанавання;
- сімвалах (дзяржаўных, тэрытарыяльных, арганізацый і іншага).

### Светапогляд

Тыя, хто атрымаў вышэйшую адукацыю да сярэдзіны 1990-х гадоў, дакладна ведаюць, што камуністычны светапогляд быў абавязкова партыйны. Тады пісалі: «Партыйнасць светапогляду мае на ўвазе класавы падыход да ацэнкі сацыяльных і прыродных працэсаў, абавязвае наўпрост і адкрыта станавіцца на пункт погляду пэўнай грамадскай групы. Адметнай рысай камуністычнага светапогляду з'яўляецца непарыўная сувязь яго з навуковымі ведамі, якія не зводзяцца да простай сумы фактаў і законаў, а выступаюць як частка, праява, пацвярджэнне дыялектыка-матэрыялістычнага погляду на свет.

Разглядаючы навуковы светапогляд як спосаб асэнсавання, разумення і ацэнкі аб'ектыўнай рэальнасці, мы вызначаем, што ён уяўляе сабой сувязь паміж рознымі ведамі, ідэямі, пачуццямі, якія ўтвараюць пэўную сістэму. У якасці элементаў гэтай сістэмы выступаюць погляды, уяўленні, ідэі, прынцыпы, накіраваныя на высвятленне адносін чалавека да свету, на вызначэнне чалавекам свайго месца ў прыродным і сацыяльным асяроддзі».

Сучасны камуністычны светапогляд беларусаў фармуецца, аднак, ужо не на працытаванай вышэй класічнай аснове, а на крыху падпраўленай пад сучаснасць — так званым наасферным камуністычным светапоглядзе, які распрацоўваецца ў Расіі. Як сцвярджаюць яго апалагеты, «наасферна-камуністычны светапогляд з'яўляецца, па сутнасці, светапоглядным сінтэзам, які вырастае на базе марксісцкага вучэння, тэорыі Вярнадскага і этыка-эстэтычных уяўленнях Івана Яфрэмава, і мае ў сваёй аснове прымат навуковага мыслення (у прыватнасці, сумы эмпірычных абагульненняў), над тэарэтычнымі пабудовамі пазначаных вышэй трох складовых частак».

Праявы гэтага светапогляду лёгка заўважыць у публікацыях беларускіх дзяржаўных выданняў, шматлікіх перадачах БТ. Не буду сцвярджаць, што ўсе аўтары папулярызацыі наасферна-камуністычнага светапогляду робяць гэта свядома. Але, як казалі ў камуністычныя часы, няведанне законаў не вызваляе ад адказнасці.

На наасферным камуністычным светапоглядзе будуюцца адпаведныя ідэалогія, культура, мараль і адукацыя. У сучаснай Беларусі гэтыя пабудовы ажыццяўляюцца пакуль нераўнамерна. Найбольш заражанымі камунізмам у класічнай і наасфернай форме з'яўляюцца мараль і адукацыя.

Напрыклад, тэзіс наасферцаў пра тое, што «вучэнне аб камунізме павінна перш за ўсё быць заснаванае на ведах, атрыманых навукова-эмпірычным шляхам, а не на філасофскіх або калянавуковых тэорыях. І таму патрэбны менавіта навуковы камунізм, жывая мова навуковага пазнання, а не той схаластычны прадмет, з якім кожны сутыкаўся ў СССР са школьнай лавы», — усё часцей знаходзіць увасабленне і ў школьных, і ў праграмах навучання ў ВНУ. «Адмежаванне, з аднаго боку, ад механістычнага разумення маральнасці, а з другога — ад пазіцыі, якая растоптвае, прыніжае прыроду чалавека, зводзіць яго альбо да ўзроўню жывёлы, альбо да заняпалага твору Божага, — вось шлях сапраўднага камуніста».

«Чым збіраемся займацца? Пераконваць, тлумачыць і даказваць, што рэформы ў інтарэсах бізнесу — шлях у галечу, а «нацыянальны гонар» — разводка для дурнаватых. Шукаць прыхільнікаў свету, пабудаванага на іншых прынцыпах — роўнасці і салідарнасці. Свету, не падзеленага на «эліту» і кіраваную масу (так, гэта называецца камунізм)», — пішуць на сваіх сайтах у інтэрнэце сучасныя беларускія прыхільнікі камунізму.

Больш буйнаму развіццю камунізму ў беларускай культуры, адукацыі, ідэалогіі пэўны час актыўна перашкаджалі ідэі неабходнасці першапачатковага нацыянальнага развіцця Беларусі, у тым ліку мовы, літаратуры, жывапісу, музыкі, кіно, тэатру, папулярныя ў грамадстве напрыканцы ХХ — на пачатку ХХІ стагоддзяў. Паколькі класічны савецкі камунізм у Беларусі разглядаў беларускае як рагатку, што перашкаджае камуністычнаму развіццю (канкрэтна пра гэта казаў у свой час сакратар КПБ Кнорын), публічна прапагандаваць камуністычныя погляды ў класічным выглядзе стала непапулярным. Каб зняць гэтую перашкоду, апошнія гады ў краіне стаў практыкавацца прынцып, які ажыццяўляўся ў Беларусі ў сярэдзіне 1920-х гадоў — беларускі па форме, камуністычны паводле зместу і сутнасці. У гэтым рэчышчы выглядаюць і нядаўнія прапановы ўсталяваць помнікі беларускім камуністам, якія праводзілі палітыку беларусізацыі.

### Эканоміка

У класічным камунізме галоўным фактарам развіцця грамадства з'яўляецца эканоміка. Лічыцца, што нявырашаныя праблемы эканомікі зрабілі з Расійскай імперыі СССР, з СССР — Беларусь і іншыя краіны. І калі ў Расіі пасля развалу СССР адразу пачаў развівацца спачатку ліберальны, а потым алігархічны капіталізм, у Беларусі сітуацыя склалася зусім інакш. Яшчэ ў 1980-я гады, калі ў СССР пачаліся працэсы рэарганізацыі жыцця краіны, звязаныя з эканамічнымі крызісамі — так званая «гарбачоўская перабудова», — у БССР на апошнім з'ездзе КПБ перабудоўшчыкі пацярпелі паразу. Яны сталі ў апазіцыю абранаму на з'ездзе кіраўніцтву, што на тыя часы было з'явай неверагоднай, прыцягнулі да сябе ўвагу кіруючых беларускіх элітаў і іх сімпатыі. Акрамя таго, перабудоўшчыкі, якіх падтрымлівала Масква, засталіся на сваіх пасадах у кіраўніцтве БССР. І калі СССР разваліўся, яны паступова занялі кіруючыя пасады ў Беларусі, і пачалі сваю «перабудову».

Сутнасць гэтай перабудовы можна сфармуляваць наступным чынам: камунізм трэба захаваць, ачысціўшы яго ад хібаў савецкага развіцця (рэпрэсій, бюракратызацыі, неэфектыўнай эканомікі, непапулярнасці камуністычных лідараў). Для гэтага была абраная мадэль рэстаўрацыі ў Беларусі палепшанага (з улікам дасягненняў развіцця цывілізацыі) варыянту так званай новай эканамічнай палітыкі. Гэтая мадэль дзейнічае і па сёння. Пэўныя палітычныя колы Расіі паставіліся з цікаўнасцю да «беларускага эксперыменту», доўгі час падтрымлівалі яго матэрыяльна, і нават мелі планы ўзнаўлення СССР праз аб'яднанне Расіі і Беларусі ў адзіную саюзную дзяржаву з далейшым далучэннем да яе і іншых былых рэспублік СССР. Але ў сучаснай Расіі беларускі выбар мадэлі развіцця ўжо лічаць няўдалым.

Кіраўніцтва Беларусі, аднак, актыўна абараняе свой «НЭП». Гэта выклікае розныя эканамічныя і палітычныя праблемы ў стасунках паміж Расіяй і Беларуссю, галоўнай з якіх усё часцей называюць захаванне самой незалежнасці беларускай дзяржавы ў існуючых зараз формах.

Трэба зазначыць, што ўвядзенне «НЭПа» патрабавала «сваіх» форм арганізацыі дзяржавы, грамадства, дзяржаўнага кіраўніцтва, навукі і культуры, якія склаліся ў часы БССР. Гэтыя формы былі цалкам захаваныя пры арганізацыі Рэспублікі Беларусь. Як ужо заўважана, некаторыя савецкія назвы былі змененыя, а некаторыя нават і не змянялі, як, напрыклад, КДБ.

### Улада і грамадства

Найбольш вядомае з таго, што засталося з камуністычных часоў у Беларусі, — гэта так званая «савецкая ўлада». У СМІ часта ўпрыгожваюць сучасную савецкую ўладу рознымі, не ўласцівымі ёй назвамі — напрыклад, «парламент», «мэр» і «губернатар». Але гэта толькі ўпрыгожванні — да заходняй дэмакратыі сучасная беларуская савецкая ўлада не мае дачынення. Яна і па назве, і па сутнасці, і па формах існавання і дзеяння застаецца савецка-камуністычнай. Мясцовае кіраванне, якое з'яўляецца важнай часткай любой дэмакратычнай сістэмы кіравання, не мае аніякага дачынення да дзеяння беларускіх сельскіх і гарадскіх саветаў.

**Спецслужбы з судовымі рэпрэсіямі — як і ў савецкія часы — галоўны рухавік беларускага прагрэсу. Яны маюць уласцівую толькі для бальшавіцкага камунізму функцыю: з'яўляюцца своеасаблівымі «чысцільшчыкамі» кіруючага апарату**








Цікава, што засталося і савецкае абыякавае стаўленне людзей да «народнай» улады — улада сама па сабе, людзі самі па сабе. Людзі дазваляюць уладзе абіраць сабе замену, нават прымаючы удзел у выбарчым працэсе, хаця ведаюць, што вынікі напісаных выбараў не маюць ніякага дачынення да сапраўдных вынікаў галасавання і, як і ў савецкія часы, вынікі галасавання іх не цікавяць. Мне неадночы распавядалі, як у савецкія часы дасягалі неабходнага выніку «галасавання»: «Зараз прасцей, проста перапішуць пратакол, як трэба, — і ўсё».

Беларускія людзі не любяць савецкую ўладу, але падпарадкоўваюцца ёй, шукаюць у ёй патунку. Патэрналісцкая апека ўлады, характэрная для савецкіх часоў, засталася і па сёння.

Палітычная сістэма Беларусі ўтрымлівае шэраг арганізацый, адкрыта і неадкрыта маючых камуністычныя ідэі. Легальна існуе нават Камуністычная партыя. І хоць уплыў гэтых партый на палітычнае жыццё Беларусі пакуль мінімальны, не выключана, што ў будучым яны яго пашыраць. На карысць гэтага сведчаць узноўленыя піянерская і камсамольская арганізацыі з іх камуністычнай сімволікай, масавыя грамадскія арганізацыі, якія так ці інакш фінансуюцца дзяржавай.

У Беларусі і сёння найбольш публічна ўшанаваныя важныя даты і дзеячы камуністычных часоў — у помніках, назвах вуліц, дзяржаўных установ і нават дзяржаўных святаў. Сімвалы — таксама савецкія — і дзяржаўны сцяг, і дзяржаўны гімн, і паўсюдныя чырвоныя зоркі, і помнікі Леніну. Можна колькі заўгодна казаць, што савецкая сімволіка — турыстычны брэнд, адметнасць Беларусі, але важна зусім іншае. Штодзённая беларуская падсвядомасць фармуецца пад уплывам камуністычнага светапогляду.

Уяўленні пра гістарычнае жыццё беларусаў — у большасці савецкія не толькі па падзеях, якія трэба мець у памяці, але і па іх ацэнках. Асабліва гэта выяўляецца ў ацэнках тых ці іншых гістарычных падзей для вызначэння іх каштоўнасці для развіцця Беларусі, беларускай свядомасці, беларускай дзяржаўнасці.

Спецслужбы з судовымі рэпрэсіямі — як і ў савецкія часы — галоўны рухавік беларускага прагрэсу. Яны маюць уласцівую толькі для бальшавіцкага камунізму функцыю: з'яўляюцца своеасаблівымі «чысцільшчыкамі» кіруючага апарату, ажыццяўляюць барацьбу з непазбежнай для камуністычнай эканомікі карупцыяй.

Ёсць некаторыя адрозненні: турэмнае зняволенне па палітычных артыкулах «за антысавецкую прапаганду» заменена і замаскіраванае пад адміністрацыйныя парушэнні, артыкулы пра знявагу кіраўніка дзяржавы ды іншае. Але калі ў камуністычнай БССР расстрэльвалі целы за непрыманне камунізму, то зараз расстрэльваюць пераважна душы, ламаюць лёсы.

Працяг будзе

17 траўня 2019 | № 18 (629) Новы час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Хто такі манах Нарыман?

У Грузіі набірае папулярнасць культ Нікалаза Макарашвілі, якога прыхільнікі ведаюць пад імем «манах Нарыман». Прапаведаваць Нікалаз пачаў яшчэ ў 2016 годзе. Тады ж Грузінская праваслаўная царква абвясціла аб адлучэнні яго ад царквы, спасылаючыся на «праблемы са здароўем». Але «жывы бог» (так часта называюць свайго куміра паслядоўнікі) не здаўся — прыняў зарок маўчання і зачыніўся ў сталічнай кватэры, дзе жыве на ахвяраванні сваіх паслядоўнікаў. Апошнія з раніцы да вечара стаяць каля яго кватэры ў Тбілісі ды мараць убачыць манаха, які зрэдку падыходзіць да вакна. У чаканні такіх сеансаў яны распавядаюць самыя неверагодныя рэчы. Напрыклад, пра тое, што дотык Нарымана вылечвае ад пнеўманіі і глаўкомы. Гэтыя гісторыі хутка распаўсюджваюцца па краіне, папаўняючы армію фанатаў манаха. У прынцыпе, «нарыманафілы» паводзяць сябе мірна і акрамя стаяння пад вокнамі звычайна занятыя расшыфроўкай таемнага сэнсу пасланняў, якія перыядычна перадае іх месія. Напэўна таму пакуль улады не рэагуюць на незвычайную царкву.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ФРГ. Біялагічныя бацькі зменяць свет

Нямецкі часопіс «Spiegel» са спасылкай на сацыёлагаў прагназуе нешта накшталт рэвалюцыі ў заходніх элітах. Усё большы ўплыў у грамадстве, на думку выдання, будуць атрымліваць незвычайныя сем'і. Іх чальцоў аб'ядноўвае тое, што іх агульныя біялагічным бацькам быў нейкі (як правіла, ананімны) донар спермы. Часам дзяцей ад такога бацькі можа быць больш за дзясятак. Раней дзеці донара не асабліва цікавіліся тым, што ў іх ёсць браты і сёстры. Сёння сітуацыя змяняецца. Усё больш папулярным у гэтым асяроддзі становіцца пошук такіх сваякоў у інтэрнэце ці праз адмысловыя фірмы. У выніку пошукаў звычайна ладзяцца агульныя сустрэчы. Прычым справа на гэтых сустрэчах не абмяжоўваецца фармальным знаёмствам і пазітыўнымі эмоцыямі наконт такой колькасці сваякоў. Браты і сёстры ўсталёўваюць кантакты, гуртуюцца ў нейкі «нефармальны клан узаемадапамогі». Як сцвярджае «Spiegel», з улікам большай колькасці «сваякоў», чальцы гэтай сеткі ўзаемадапамогі будуць мець значна больш шанцаў зрабіць кар'еры, чым дзеці звычайных бацькоў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ЕЎРАСАЮЗ. Замест еўра — пустыя бутэлькі?



Кампанія па выбарах у Еўрапарламент, якія пройдуць 26 траўня, дасягнула кульмінацыі. Не засталіся ўбаку і розныя сатырычныя партыі, якія прапануюць абсурдныя вырашэнні ўсіх праблем. Апошнім часам такія партыі перажываюць рэнесанс. Зрэшты, іх шанцы трапіць у Еўрапарламент усё роўна нізкія. Хіба за выключэннем нямецкай партыі, якая так і называецца — Партыя. Партыя, створаная пры сатырычным часопісе «Titanik», існуе з 2004 года і досыць папулярная сярод бюргераў. Калі яна правецца ў Брусель, то сумна там адназначна не будзе. Прадстаўленая днямі праграма сатырыкаў змяшчае шмат цікавых пунктаў — напрыклад, увесці агульнаеўрапейскі пенсійны ўзрост у 25 гадоў. На іх думку, трэба адмовіцца ад валюты еўра на карысць такой валюты, як пустыя піўныя бутэлькі і пляшкі. Партыя выступае за тое, каб абавязаць усіх настаўнікаў і школьнікаў насіць аўтаматычную зброю. Нарэшце, яны прапануюць забараніць у Еўропе ўсе палітычныя партыі, што дазволіць, на іх думку, «захаваць еўрапейскую дэмакратыю».

**Паводле нямецкай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Канец інстытута «неграмадзян»

Сейм Латвіі ў першым чытанні падтрымаў аўтаматычнае прадстаўленне грамадзянства дзецям неграмадзян. Згодна з законапраектам, дзеці, якія нарадзіліся ў Латвіі пасля 1 чэрвеня 2018 года, больш не будуць атрымліваць статус неграмадзян. Неграмадзяне не могуць займаць шэраг пасад, а таксама ўдзельнічаць у выбарах і рэферэндумах. Каб атрымаць грамадзянства Латвіі, ім трэба прайсці працэдуру натуралізацыі — здаць экзамен па латышскай мове і гісторыі краіны. Інстытут «неграмадзян» даўно выклікаў крытыку ў Еўропе. Аднак некаторыя партыі прынцыпова блакавалі зрухі ў гэтай сферы ды спасылаліся на асаблівасці краіны. Застаецца дадаць, што ініцыятыву ў Сейм унёс прэзідэнт Латвіі Раймандс Веёніс. Прыкладна 72 працэнты жыхароў падтрымліваюць рэформу. Наступным крокам, магчыма, будзе допуск неграмадзян да ўдзелу ў самакіраванні. Лічыцца, што гэта дапаможа зацікавіць іх латышскай палітыкай замест таго, каб глядзець расійскія тэлеканалы.

**Паводле латышскай прэсы**




Фота www.bbc.com

# Ці патрэбны немцам новы гімн?

Алег НОВІКАЎ

**Германія падзялілася на два лагеры, якія не могуць знайсці кампрамісу наконт дзіўнага пытання — ці патрэбна змяняць цяперашні дзяржаўны гімн «Песня немцаў»?**

«Нам бы іх праблемы», «няма чаго людзям рабіць»... Напэўна так адрэагуе сярэднестатыстычны беларус, калі даведаецца, што ў ФРГ ідуць гарачыя дэбаты наконт зместу песні, што была напісаная аж у далёкім XVIII стагоддзі Генрыхам Гофманам фон Фалерслебенам. І глыбока памыліцца, паколькі за тэмай гімну хаваецца вельмі шмат важных для нямецкага грамадства наратываў.

Ініцыятарам дыскусіі наконт рэформы гімну стаў Бода Рамелоў — прэм'ер-міністр зямлі Цюрынгія. Рамелоў у чымсьці ўнікальны па нямецкіх мерках рэгіянальны кіраўнік, паколькі абапіраецца ў зямельным парламенце на картэль левых партый — зялёныя, эсдэкі і левыя. Звычайна тыя палітструктуры хранічна не здольныя выйсці на дыялог. Акрамя гэтага Рамелоў намагаецца выглядаць вядучым абаронцам інтарэсаў усходніх немцаў і спадчыны Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Ажно да таго, што спрабаваў стварыць інстытут памяці ГДР.

Прапанова наконт новага гімну з той жа оперы — клопату пра забабоны былых грамадзян Усходняй Германіі. Паводле палітыка, на Усходзе нават праз 30 гадоў лічаць гэты гімн чужым, паколькі «Песня немцаў» для мясцовых жыхароў засталася гімнам ФРГ. Трэба прызнаць, што нейкая рацыя тут прысутнічае. Інакш бы падчас перамоў пра аб'яднанне Германіі ў 1990 годзе не гучала ідэя новых сімвалаў для новай нямецкай дзяржавы.

На гэтым спіс прэтэнзій Рамелоў на адрас «Песні немцаў» не вычэрпваецца. Палітыка бянтэжыць трэцяя страфа — «адзінства і права, і свабода», якая нагадвае яму пра часы нацызму. Тут варта адзначыць, што першая страфа «Песні немцаў» — «Германія, Германія вышэй за ўсё» — была фрагментам гімну Трэцяга Рэйху. Не дзіўна, што ў 1945 годзе саюзнікі твор фон Фалерслебена банальна забаранілі.

Затое ў 1952-м спяваць твор не толькі дазволілі, аднак і раптам зрабілі гімнам ФРГ. Праўда, з адной важнай папраўкай: першую страфу пра Германію вышэй за ўсё з тэксту выкраслілі. Аднак, як бачым, там усё роўна хапае іншых месцаў, што нагадваюць пра дыктатуру нацыстаў. Дарэчы, у працікнікаў «Песні немцаў» ужо ёсць альтэрнатыва. Замест цяперашняга гімну прапануецца спяваць «Дзіцячую песню», што напісаў вядомы пісьменнік Бертольд Брэхт.

Прапанову наконт эрзацу для «Песні немцаў», а таксама іншыя фантазіі Рамелоў кансерватыўная грамадскасць сустрэла, мякка кажучы, не вельмі

**Нямецкія феміністкі абураюцца тым, што ў тэксце гімну няма ніводнага пасажа пра слабы пол. Важны аргумент на карысць пазіцыі феміністак — нядаўнія змены гімнаў у Аўстрыі і Канадзе, якія сталі гучаць больш карэктна**

прыхільна. «Далоў рукі ад гімну», — лейтматыў каментараў практычна ўсіх лідараў урадавай партыі Саюз хрысціянскіх дэмакратаў (CDU). Яны, уключаючы канцлера Ангелу Меркель, запусцілі нешта падобнае на флешмоб — прызнаюцца ў любові да цяперашняй афіцыйнай мелодыі. Некаторыя нават кажуць пра крамольны падтэкст тэзісаў Рамелоў. Маўляў, той з дапамогай нявіннай тэмы актуальнасці гімну на самай справе ставіць пад пытанне паспяховасць праекту адзінай Германіі.

Такі агрэсіўны стыль каментараў кансерватараў часткова тлумачыцца і тым, што ідэі рэгіянальнага палітыка прагучалі ва ўнісон з іншай рэзананснай антысістэмнай заявай. Кевін Кюхнер, правадыр маладых эсдэкаў, рашуча заклікаў да нацыяналізацыі ўсёй буйной вытворчасці, паколькі «свет вольных людзей засяроджаны на калектыўных патрэбах, а не на ідэях індывідуальнага прыбытку».

Напэўна, яшчэ ўчора ў разважаннях Кюхнера пабачылі б нешта маргінальнае і неадэкватнае. Аднак зараз стаўленне да такіх прапаноў іншае. Хуткі сыход Ангелы Меркель з палітыкі ўспрымаецца шматлікімі немцамі як шанец на перазапуск краіны. Таму рэвалюцыйныя заклікі Кюхнера нечакана знайшлі калектыўнага адрасата.

Тое ж масавае адчуванне неабходнасці абнаўлення краіны пасля заканчэння эры Меркель гуляе і на карысць ідэяў Рамелоў. Нават сярод заходніх немцаў, якія далёкія ад прыколаў жыхароў экс-ГДР, хапае аматараў інавацый. Узгадваюць адносна свежы скандал з футбалістам турэцкага паходжання Месутам Азілам, які, насуперак бліскучай кар'еры, так і не змог цалкам інтэгравацца ў нямецкі соцыум. Прычыну правалу праекту мультыкультурнага грамадства шмат хто бачыць у архаічнасці канцэпту нямецкай дзяржавы і яе сімвалаў.

Нарэшце, трэба згадаць такі моцны фактар, як жаночы рух. Захад перажывае фенаменальны выбух палітычнай свядомасці жанчынаў, якія ставяць пад сумнеў усе догмы патрыярхальнага мінулага. Нямецкія феміністкі даўно абураюцца тым, што ў тэксце гімну няма ніводнага пасажа пра слабы пол. Важны аргумент на карысць пазіцыі феміністак — нядаўнія карэкціроўкі гімнаў у Аўстрыі і Канадзе, якія сталі гучаць больш палітычна карэктна. У гэтым плане змянення «Песні немцаў» сапраўды выключаць нельга. Як мінімум, з тэксту гімна можа знікнуць фрагмент «па-братэрску з сэрцам і рукой», які шматлікія немкі трактуюць як падспудное замацаванне мужчынскага дамінавання.

# Казахскі кот у мяшку

Алег НОВІКАЎ

**Наконт сваіх выбараў казахі склалі анекдот: «Нядаўна ў Казахстане прайшлі прэзідэнцкія выбары, дзе Назарбаеў набраў 90% галасоў выбаршчыкаў. Тым не менш, Елбасы падаў апеляцыю і ў выніку адсудзіў сабе яшчэ 10%».**



Фота www.matritca.kz

Анекдот цудоўна даводзіць сутнасць электаральнага працэсу ў краіне. Не дзіўна, што прыкладна 10–15 гадоў таму частка апазіцыі стала пад сцягі байкоту. Спрыяла папулярнасці абсентэізму і перманентная зачыстка апазіцыйнага поля, што ператварыла апазіцыю ў субкультуру, тэхнічна не здольную праводзіць кампаніі ў нацыянальных маштабах. Таму казахскай апазіцыяй стаўка робіцца на знешні ціск, супярэчнасці ўнутры эліты, рабочы пратэст і іншыя форс-мажоры. Адначасова тых дысідэнтаў, хто пагаджаўся гуляць у выбары, апрыёры пачалі запісваць у здраднікі.

Праўда, прыкладна 10 гадоў таму сама ўлада адмовілася нават ад фармальнай прысутнасці апазіцыйных кандыдатаў у выбарчых бюлетэнях. Былі анімаваныя фіктыўныя апазіцыйныя праекты накшталт эколагаў або народных камуністаў, якім дазвалялі асцярожна крытыкаваць уладу, не кранаючы, натуральна, сакральную постаць Елбасы.

Аднак цяпер канцэпцыя чамусьці змянілася. 7 траўня апазіцыянер Аміржан Косанаў нечакана прайшоў рэгістрацыю ў кандыдаты — і ўжо вядзе актыўную кампанію, замоўнікі якой, як сцвярджаюць у сеціве, сядзяць у адміністрацыі Назарбаева.

У такі расклад паверыць цяжка, калі ведаць біяграфію кандыдата. За амаль 20 гадоў знаходжання ў апазіцыі ён шмат нацярпеўся ад рэжыму. Акрамя турэмных тэрмінаў, супраць яго неаднаразова арганізоўваліся розныя правакацыі і акцыі застрашвання. Спецслужбы ішлі на тое, каб бетанаваць дзверы яго кватэры, дасылалі дадому пахавальны вянок, аплачвалі яго пахаванне...

З іншага боку, не зразумела, якім чынам, без адмашкі «зверху», Косанаў мог прайсці ўсе фільтры з рэгістрацыяй і публічна агучваць крамольныя лозунгі, падобныя на лозунгі ўкраінскага Майдану. У перадвыбарчай праграме апазіцыянер абяцае ўзмацніць еўрапейскі вектар развіцця Казахстана, правесці поўную дэкамунізацыю і дэсаветызацыю свядомасці грамадзян, узмацніць ролю казахскай мовы, забяспечыць яе вяршэнства ва ўсіх сферах жыцця грамадства, а таксама прыняць новы закон «Аб дзяржаўнай мове» і заканадаўча вызначыць пералік прафесій, для якіх валоданне дзяржаўнай мовай абавязковае.

**Не зразумела, якім чынам, без адмашкі «зверху», Косанаў мог прайсці ўсе фільтры з рэгістрацыяй і агучваць лозунгі, падобныя на лозунгі ўкраінскага Майдану. Напрыклад, узмацніць еўрапейскі вектар развіцця Казахстана**

Увогуле, падобныя перспектывы, відавочна, могуць зацікавіць толькі частку грамадства. Асноўнай аўдыторыяй Косанава можна назваць моладзь, якая прагне пераменаў у краіне, і нацыянальна свядомых казахаў. Рускамоўная публіка, відавочна, будзе кідацца ўбок ад кандыдата-нацыяналіста. Непрывабны Косанаў і для часткі апазіцыйнага сегмента — у сілу супрацоўніцтва з уладай. Сайт казахскай апазіцыі даў наступную ацэнку сітуацыі: «Усе, акрамя Такаева, кандыдаты заклікаными падманваць грамадскую думку ў свеце і ўнутры краіны і прыцягваць грамадзян на выбарчыя ўчасткі. Такую ж ролю адыгрывае так званы «апазіцыянер» Аміржан Косанаў, які з'яўляецца заснавальнікам руху «Жана Казахстан» («Новы Казахстан»), што былі створаны Адміністрацыяй прэзідэнта».

Таму мусіруецца версія, што за кошт Косанава ўлада збіраецца стварыць ручную нацыяналістычную партыю ў дадатак да ўжо існуючых падкантрольных лібералаў, камуністаў і эколагаў.

Лічыцца, што Косанаў можа дапамагчы ўладзе вырашыць і некаторыя тактычныя задачы. Перш за ўсё, гэта каналізацыя вулічных пратэстаў у выбарчую кампанію, штаб якой відавочна кантралюецца ўладамі Казахстана. Тэма стыхійных акцый стала вельмі важнай пасля 1 траўня, калі ў Алматы ўспыхнулі несанкцыянаваныя і дастаткова масавыя пратэсты. Яны сталі штуршком для новай серыі моладзевых пратэстаў, якія кампраметуюць уладу. Днямі паліцыі давялося арыштаваць юнака за тое, што той стаяў на вуліцы з чыстым аркушам паперы...

Нарэшце, уладзе неабходная імітацыя жывога электаральнага працэсу, які не здольныя стварыць псеўдаапазіцыянеры. Прычым гэтым разам бачнасць дэмакратыі робіцца не для назіральнікаў АБСЕ. Як вядома, у рамках аперацыі «Пераемнік» Назарбаеў збіраецца закулісна кіраваць краінай праз Касыма-Жамарта Такаева. Каб карыстацца аўтарытэтам, апошняму патрэбная перамога на больш-менш канкурэнтных і сумленных выбарах. Для гэтага, мабыць, і спатрэбіўся Косанаў.

Як бачым, кампрамату на Косанава хапае. Тым не менш, гэты кампрамат застаецца на ўзроўні спекуляцый і версій. Канчатковага адказу на з'яву Косанава пакуль няма. Магчыма, для гэтага давядзецца дачакацца 9 чэрвеня, калі ў Казахстане адбудуцца выбары.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Джуліюс Малема



Старшыня Паўднёва-Афрыканскай партыі «Байцы за эканамічную свабоду» (EFF) стаў галоўным пераможцам парламенцкіх выбараў 8 траўня. Дэпутацкая група EFF павялічылася да 44 чалавек (у парламенце папярэдняга склікання яна мела 25 дэпутатаў).

Нягледзячы на тое, што назва партыі гучыць вельмі ліберальна, на самай справе EFF займае крайне левыя і папулісцкія пазіцыі. Маяком для Малемы з'яўляецца Зімбабвэ часоў дыктатара Мугабэ, дзе ў белых фермераў былі канфіскаваныя ўсе землі. Гэтая практыка вельмі папулярная ў Паўднёвай Афрыцы.

У той жа час вядучая партыя краіны «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC) упершыню з часоў падзення рэжыму Апартэіду набрала менш за 60 працэнтаў. Страціў і «Дэмакратычны альянс» (DA) — вядучая апазіцыйная партыя, якая лічылася галоўным рупарам белых і прадстаўнікоў чорнага сярэдняга класу. У прынцыпе, «Дэмакратычны альянс» паўтарыў лёс ANC. Калі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» атакавала злева партыя Малемы, то DA страчвае прыхільнікаў праз «Фронт свабоды плюс» (FF+) — палітсілы, якая адстойвае ідэю стварэння незалежнай дзяржавы белых грамадзян Паўднёвай Афрыкі. Доўгі час FF+ блакаваўся з DA, аднак гэтым разам белыя нацыяналісты пайшлі на выбары аўтаномна — і атрымалі ў выніку 10 мандатаў.

Хаця ANC зможа зноў сфармаваць урад, палітычная будучыня краіны незразумелая. Так атрымалася, што ў гэтых выбарах упершыню прынялі ўдзел тыя, хто нарадзіўся пасля краху Апартэіду. Высвятляецца, што маладыя людзі альбо ігнаравалі выбары, бо расчараваліся ў сістэме, альбо галасавалі за такіх радыкалаў, як Малема.

### Марын Ле Пэн



Лідарка французскай партыі «Нацыянальны фронт» (RN) вырашыла прагматычна падысці да 50-гадовага юбілею сыходу Шарля дэ Голя ў адстаўку.

28 красавіка 1969 года заснавальнік Пятай Рэспублікі адмовіўся ад пасады прэзідэнта, прайграўшы канстытуцыйны рэферэндум пра рэформу мадэлі мясцовай адміністрацыі (каля 51 працэнта ўдзельнікаў галасавання выказаліся супраць прапанаў Елісейскага палацу). Многія тады расцанілі пройгрыш як вотум недаверу прэзідэнцкай адміністрацыі. Пад ціскам грамадскасці дэ Голь мусіў добраахвотна сысці.

Праз паўстагоддзя Ле Пэн вырашыла навязаць падобную схему цяперашняму прэзідэнту Эмануэлю Макрону. У адкрытым лісце яна прапануе гаранту разглядаць травеньскія выбары ў Еўрапарламент як плебісцыт наконт даверу прэзідэнту. Такім чынам, у выпадку правалу прапрэзідэнцкай партыі «Рэспубліка на маршы» (LRM) Макрон павінен паўтарыць крок дэ Голя — пакінуць пасаду.

Макрон, рэйтынг партыі якога складае прыкладна 23–36 працэнтаў, выклік Ле Пэн, як і варта было чакаць, праігнараваў. Тым не менш, нейкія медыйныя пункты Ле Пэн, чыя партыя развлічвае на 20 працэнтаў, атрымала. Застаецца дадаць, што юбілей сыходу Шарля дэ Голя выклікаў хвалю настальгіі па палітыку. Практычна ўсе каментатары згаджаюцца, што ўсе лідары дзяржавы пасля Шарля дэ Голя выглядаюць ліліпутамі.

З іншага боку, нельга ігнараваць тое, што Шарль дэ Голь пайшоў у адстаўку пасля студэнцкай рэвалюцыі 1968-га, якая цалкам змяніла культурныя стандарты. Па-сутнасці, у 1969-м стары Шарль дэ Голь ужо быў для французаў іншапланецянінам.

### Роберт Качаран



Прэзідэнт Арменіі, які кіраваў краінай з 1998 да 2008 года, папоўніў клуб прэзідэнтаў СНД, якія праз нейкі час пасля заканчэння сваёй кадэнцыі апынуліся на лаве падсудных. 13 траўня ён паўстаў перад судом па абвінавачванні ў звяржэнні канстытуцыйнага ладу.

«Справа 1 сакавіка» доўгі час не расследавалася, але была зноў адноўлена пасля «аксамітнай рэвалюцыі» 2018 года і прыходу да ўлады Нікола Пашыняна. Сам Качаран, які ўтрымлівае ецца пад арыштам з мінулага снежня, абвяргае абвінавачванні і называе іх часткай палітычнай «вендэты».

Працэс стартаваў на фоне гадавіны Майдана. Дэфіцыт дасягненняў Пашыняна, мабыць, даводзіцца кампенсаваць судом над экс-прэзідэнтам. Суд будзе вельмі складаны. У тым ліку з-за пазіцыі Нагорнага Карабаху. Лідары непрызнанай рэспублікі, адкрыта выступаюць за вызваленне экс-прэзідэнта з турмы. У сувязі з гэтым не выключаюць спробы арганізацыі Майдана ў НК.

# D-bass. Партрэт інструмента

Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ

**Аляксандра Дабравольскага ўсе ведаюць найперш як палітыка, чальца Аб'яднанай грамадзянскай партыі. А такога Дабравольскага вы ведалі?**

Я ніколі не граў песню «Go Golly Miss Molly». Хоць і чуў яе незлічоную колькасць разоў. У мяне такое ўражанне, што гэты класічны рок-н-рол можа заспяваць кожны жыхар нашай планеты. Не ўсе, магчыма, трапяць у ноты, але... Зрэшты, магу і памыліцца — знойдуцца і тыя, хто пра гэту песню даведаецца з майго тэксту. Не, не веру, што такое магчыма!..

З усяго спісу, які я атрымаў ад Мілы, я абраў гэтую песню. Можа, таму, што яна вельмі завадная. Можа, таму, што яна адразу «завялася» ў маёй галаве, ды так, што выгнаць яе было папросту немагчыма. Трэба ўсё ж прызнацца, што, хутчэй за ўсё, я абраў тую «рэч», якую мне прасцей было выканаць. Бо я не выходзіў на сцэну 32 гады. І амаль столькі ж не браў у рукі бас-гітару. Неверагодна!

***

...Калі я яе ўбачыў, ледзь не звар'яцеў. Гэта была фантастыка. У 1984 годзе якраз пачалася кампанія па «атэстацыі» рок-гуртоў, або, як іх называлі ў газетах, «вакальна-інструментальных ансамбляў». Я і мае сябры — Сярога, Лёнька і Валодзя, — не вельмі баяліся гэтай атэстацыі. Па-першае, мы не ведалі, што гэта — сур'ёзна. Па-другое, мы ўладкаваліся граць у Дом культуры, дзе рэпетавалі і захоўвалі апаратуру. А атэстацыя якраз там і праводзілася, і мы спадзяваліся на добразычлівасць «камісіі». Камісіі тады шмат што вырашалі. Як потым высветлілася, па ўсім Савецкім Саюзе з дапамогай атэстацыйных камісій «вычысцілі» мноства моцных гуртоў, сярод іх — і «Аракс», які мы страшэнна любілі за фірмовае прафесійнае гучанне.

Нам неатэстацыя нічым асабліва не пагражала — у кожнага быў асноўны занятак. Я працаваў інжынерам-электроншчыкам, Сярога займаўся тэхнікай на пошце, Лёнька вучыўся ў політэхнічным, а Валодзя выкладаў у музычнай школе. Але для прафесійных музыкаў неатэстацыя была як чума. Людзей пазбаўлялі любімай працы, ламалі іх лёсы. Тагачасны кіраўнік краіны Андропаў такім чынам наводзіў парадак, культуру «зачышчалі» ад нядобранадзейных. Яшчэ праводзіліся аблавы па крамах і кінатэатрах, а раптам хто пайшоў туды ў працоўны час?

Дык пра што гэта я? У 1984-м я граў ужо ў чацвёртым сваім складзе. У першы «ансамбль» я трапіў у дзявятым класе школы, калі яшчэ і граць асабліва не ўмеў. Сярога тады граў у другой школе разам з будучым губернатарам Магілёўскай вобласці Валодзем. Другі склад мы стварылі з аднакурснікам Сашам на факультэце радыёфізікі БДУ. Бубнача ў нас не было, і мы запрасілі Пракопа, які крута стукаў па каленях, калі слухаў музыку. У яго атрымалася і на ўдарнай установцы.



На вечарыне выпускнікоў ВШПІ, снежань 2018



Нас запрасілі ў суседні вясковы клуб граць на танцах. Мы з Сашам набылі па гітары — «балалайцы». Так, былі такія блакітныя «балалайкі» чэшскай фірмы «Jolana». Свой бас «Basso IX» я набыў ва ўнівермагу «Беларусь» за 226 рублёў. А дзе было яшчэ? У самай галоўнай краме «Музыка» таксама нічога іншага не прадавалі. Фірмовыя інструменты каштавалі фантастычных грошай, бо была манаполія знешняга гандлю, і ўвесь імпарт зацвярджаўся ў Маскве. 226 рублёў былі тады прыстойнымі грашыма — як мінімум, двухмесячным заробкам. А бас «Fender», прывезены «фарцоўшчыкам», каштаваў больш за тысячу.

У наш вясковы клуб прыслалі мастацкім кіраўніком Яшу. Дырэктар клуба Абрам Міхайлавіч прыняў яго ветліва. Яша — крута скрыпач. У яго было мноства знаёмых, і ён «дастаў» у клуб ударную ўстаноўку «Amati», хоць і не новую. Гэта была мара.

Пракоп сядзеў за ёй як кароль. «Amati» была не італьянскай фірмай, як можна было падумаць, а чэшскай. І гэта найлепшае, што можна было «дастаць». Слова «дастаць» тады значыла нашмат больш, чым слова «купіць». Калі былі грошы — усё роўна, каб купіць, трэба было спачатку «дастаць». Гэта значыць, атрымаць дазвол набыць або ад дзяржавы, або ад знаёмага прадаўца.

Яша апынуўся вясёлым і прадпрымальным чалавекам. Мы паехалі з ім па вяселлях, і ён вельмі разнастаіў наш рэпертуар віртуознай «інструменталкай», якую ён з запалам выконваў на скрыпцы, і адэскімі песнямі. Зрэшты, свята было нядоўгім. Аднойчы Яша запрасіў нас да сябе дадому на вуліцу Прытыцкага і распавёў, што з'язджае. Быў, наколькі я памятаю, 1978 год. Мяжа тады была на замку, за яе не выпускалі. Выпускалі тады хіба што яўрэяў у Ізраіль, дый тое з праблемамі. Яша вельмі непакоіўся, ці прапусцяць скрыпку.

Дасюль не ведаю, ці прапусцілі. Але ведаю, што сваю справу ён не кінуў. Чытаў у кнізе Міхаіла Шуфуцінскага апавяданні, як Яша бліскуча граў на ягоных канцэртах. Потым Яша вярнуўся ў Адэсу і кіраваў жаночым скрыпічным ансамблем. Гляджу зараз у інтэрнэце афішы выступаў Яшы ў ЗША.

Пасля Яшавага ад'езду ў нас утварыўся трэці склад. Напэўна, самы прафесійны. Брат нашага гітарыста Сашы іграў на балалайцы ў Кансерваторыі. А паралельна — на гітары. Мы з Сашам былі запрошаныя ў каманду «крутых перцаў» з «Кансы». Сашаў брат Коля (гітара), Віця (клавішы), Саша (барабаны) і Валера (флейта). Вось дзе была школа для мяне! Я вывучыў нотную грамату раней самастойна, але гэта ж быў зусім іншы ўзровень!

У гэтым складзе мы гралі ў шматлікіх кавярнях і рэстаранах, на вяселлях, вечарынах, канцэртах. Каб працаваць легальна, мы ўладкаваліся ў фірму бытавога абслугоўвання «Адпачынак» і раз на месяц атрымлівалі зарплату рублёў так па 60. Але гралі мы, зразумелая рэч, не дзеля грошай. Хоць супраць грошай ніхто не пярэчыў. Мы пасябравалі, і я граў у гэтай групе да заканчэння ўніверсітэта. Узмацняльнікі ў нас былі лямпавыя самаробныя, калонкі таксама самаробныя, у Сашы — чэшская ўдарная ўстаноўка «Amati», гітары былі таксама чэшскія, а ў мяне — усё тая ж сіняя «балалайка».

З гэтай гітарай я яшчэ граў цэлае лета 1981 года ў спартыўным лагеры БДУ на Нарачы ў зборным складзе. Самы яркі персанаж у нас быў Алік — бубнач з танцавальнага ансамблю «Харошкі». Ён быў старэйшы за нас удвая, але і ўдвая весялейшы.

Студэнты ў спортлагеры не толькі спортам займаліся, але і выступалі са сцэны (гэта называлася мастацкай самадзейнасцю). Калісьці па савецкім тэлебачанні некалькі гадоў запар ішла перадача «Рабі з намі, рабі як мы, рабі лепш за нас». Паколькі тады было толькі два тэлеканалы — усесаюзны і рэспубліканскі, — то глядзелі ўсё, што прыйдзецца. У гэтай перадачы спаборнічалі школьнікі з ГДР — Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. У якой мяжа таксама была на замку, бо побач у Заходняй Германіі (ФРГ) «пакутаваў працоўнай народ», і занадта шмат каму з усходніх немцаў чамусьці хацелася туды патрапіць. І вось са сцэны ў КВЗ гучыць: «Рабі з намі, рабі як мы, рабі лепш за нас! Перадача з Польшчы». А ў Польшчы тады ў разгары былі пратэсты прафсаюза «Салідарнасць». Добра, што са студэнтамі нічога дрэннага не здарылася, за такі гумар раней можна было трапіць у турму ці вар'ятню. Але ў 1980-я гады ўжо заканчваўся так званы «застой», наперадзе маячыла Перабудова, пра якую тады ніхто не здагадваўся, але аднекуль з'явілася надзея на перамены. А ў музыцы замест мілагучных ВІА пправаліся «Воскресенье» і «Машина времени».

Іх песні і сталі асновай нашага рэпертуару. А ў нашай камандзе з'явіўся пазаштатны вакаліст Ігар. Ён адпачываў з сям'ёй у суседнім курортным мястэчку і прыходзіў да нас пакрычаць «Поворот» і «Кто виноват, что ты устал». Ігар — выпускнік Піцерскай кансерваторыі. Ён кіраваў Народнай харавой капэлай БДУ, у якую я трапіў насуперак свайму жаданню на першым курсе. Мы страшна не любілі хор, а ўсіх загналі на праслухоўванне. Я, Саша і Пракоп наўмысна праспявалі фальшыва, але нас «здаў» камсорг (сакратар камсамольскай арганізацыі), які загадзя папярэдзіў Віктара Іванавіча, што мы нешта кшталту музыкаў. Віктар Іванавіч тады кіраваў капэлай. Ён сказаў так: адна рэпетыцыя, і нікога не трымаю. Я трапіў на рэпетыцыю: складаныя шматгалоссі, цікавы рэпертуар. Хоць былі і песні пра партыю, якія мы не любілі.

Я ўліп — і спяваў у капэле пры розных кіраўніках яшчэ некалькі гадоў пасля заканчэння БДУ. Там я сустрэў Наташу, з якой пазнаёміўся пасля нашага канцэрта перад умоўна асуджанымі ў Гродне, і якая пасля стала маёй жонкай. А з Ігарам мы сябруем да гэтага часу. Пасля капэлы ён стварыў камерны хор, у першым складзе якога я таксама спрабаваў спяваць. Потым хор стаў Дзяржаўным, а Ігар — заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі. Але гэта было пазней. А ў 1981 годзе мы разам праспявалі выдатнае вясёлае лета.

А потым здзейснілася мая мара змяніць інструмент. Бас-гітару, з якой пачыналася гэтая гісторыя. Але не адразу. Спачатку летам 1982 года я прайшоў трохмесячныя ваенныя зборы пасля ўніверсітэта, дзе даведаўся, што такое салдацкае жыццё, і стаў лейтэнантам артылерыі. Потым пайшоў на працу ў Канструктарскае бюро, і яна мяне так захапіла, што спачатку было не да хобі. Я ўдзячны лёсу за тое, што трапіў, напэўна, у лепшы працоўны калектыў у маім жыцці. Заробак быў спачатку 130 рублёў, потым крыху вышэйшы, але здымаць кватэру ў Мінску было складана, і я вярнуўся ў раённы горад пад Мінскам да бацькоў. На працу даводзілася ездзіць кожны дзень на электрычцы, так рабілі многія мае сябры.

Там разам з Сярогам мы і стварылі новую групу. Запрасілі гітарыста Лёньку і бубнача Валодзю, які падпрацоўваў мастацкім кіраўніком на мясцовай швейнай фабрыцы. На гэтай фабрыцы і сталі спачатку выступаць. Потым перайшлі ў Дом культуры. Гралі пераважна рок. Гэта быў мой чацвёрты склад. Ён быў моцны і зладжаны. Быў 1984 год, наперадзе была атэстацыя.

***

І вось я ўбачыў яе. Яна была неверагодная. У маіх вачах гэта быў верх дасканаласці. Хто бачыў бас «Rickenbacker», зразумее мяне. Толькі такіх мала. Гэта была чэшская копія, называлася яна «Jolana D-bass». Я бачыў арыгінал гэтай гітары на альбоме 1972 года маёй любімай групы «Deep Purple», у якім была ўсім вядомая песня «Smoke On The Water». Мабыць, яна нават больш вядомая, чым «Go Golly Miss Molly», з якой я зноў выйшаў на сцэну пасля 32-гадовага перапынку. Але зблізку я ніколі не бачыў нічога падобнага.

# на фоне гісторыі

Мая сіняя «балалайка» той жа фірмы ніякага параўнання не вытрымлівала. Чамусьці ў сацыялістычных краінах гітары атрымліваліся не вельмі. Калі толькі іх не капіявалі.

А гэта была копія. Я потым прачытаў яе гісторыю. Паводле легенды, бас-гітара «Rickenbacker 4001» трапіла майстрам фірмы «Jolana» на адну ноч для рамонту. Нешта з ёй здарылася, калі заходняя група гастралявала ў Чэхаславакіі. На фірме абвясцілі баявую трывогу, разабралі і зноў сабралі гітару, злізалі ўсё, што паспелі. Аддалі інструмент у спраўным стане, а чарцяжы аддалі «ў работу». Копія атрымалася цудоўная. Праўда, былі невялікія адрозненні. Датчыкі (гуказдымальнікі) не разбіралі, таму выкарыстоўвалі аналагі ад знакамітых гітар «Fender Precision» і «Fender Jazz Bass». Ручкі для рэгулявання гучнасці і тэмбру скапіявалі з гітар «Gibson».

Але пра гэта я даведаўся потым. А пакуль перад сабой я бачыў выдатны інструмент у цвёрдым футляры. Справа была ў Мінску, у краме «Музыка» на Якуба Коласа, 39. Гэта месца ведаў кожны музыкант. Тут шмат што можна было набыць, калі ўдавалася «дастаць». Акрамя гітар «Fender», «Gibson», і тым больш «Rickenbacker». Заходнія інструменты і апаратура пастаўляліся ў Савецкі Саюз у адзінкавых экземплярах па спецзаказе. Напрыклад, для такіх ансамбляў, як «Песняры», якія тады гралі на заходнегерманскай апаратуры «Dynacord».

Калегі нашага бубнача Валодзі па музычнай школе, каб набыць інструменты, прывозілі загадчыцы крамы «Музыка» Тамара Паўлаўне лісты-хадайніцтвы, спрабавалі задобрыць яе рознымі спосабамі. Не ведаю, наколькі гэта дзейнічала. Але для шараговага пакупніка «злавіць» у краме нешта вартае было рэдкай удачай, якая ўсміхнулася мне ў той дзень.

Першыя некалькі хвілін, калі я пабачыў гэты цуд, я маўчаў, бо не мог закрыць рот, які раптам адкрыўся. Потым заявіў, што хачу купіць гэтую гітару. Каштавала яна 529 рублёў. Гэта былі чатыры мае месячныя зарплаты. Мне адказалі, што я не першы. Пакупнік, які прыйшоў перада мной, папрасіў яе пакінуць на 30 хвілін і пабег за грашыма. У мяне, зразумелая справа, грошай таксама не было. І было не вельмі шмат ідэй, дзе іх узяць. Тым не менш, я дамовіўся, што, калі 30 хвілін пройдуць і пакупнік не прыйдзе, ужо я пакіну гітару на 30 хвілін і пабягу за грашыма. Уявіце сабе, мабільных тэлефонаў тады не было. Я ўжо думаў, як знайду тэлефон-аўтамат і буду абзвоньваць сяброў з просьбай падвезці грошы на таксі. Мне здавалася, што нішто не зможа мяне спыніць.

Прайшло 10, 15, 20, 25 хвілін. Пакупнік прыйшоў з грашыма на 29-й хвіліне. Аблом. Гітара ў адкрытым продажы была адна. Трэба было сыходзіць, але ногі не ішлі. Пытаўся ў прадаўцоў, можа, будуць яшчэ такія гітары. Яны рабілі страшныя вочы і казалі, што нічога не ведаюць. Пытаўся ў пакупніка, можа, калі гітара яму не падыдзе, саступіць яе мне. Ён толькі ўсміхаўся. На ўсялякі выпадак даў яму свой тэлефон. Рабочы, хатнія тады былі рэдкасцю.

Дадому ехаў з цяжкім сэрцам. Як быццам атрымаў вестку аб буйным выйгрышы ў латарэю, якая не пацвердзілася. Праз пару дзён я супакоіўся. Мае сябры сказалі, што, калі ўжо я так загарэўся, то варта паглядзець, што прадаюць з рук. І я нават з'ездзіў паглядзець ужываны «Fender Precision» за тысячу з лішнім рублёў. Гітару купляць не наважыўся. Тым больш, што грошай такіх і блізка не было.

***

...Міла — наша выпускніца. Разумніца, прыгажуня, маладая мама. Мы запрасілі некалькі выпускнікоў, каб абмеркаваць, як лепш арганізаваць навагоднюю вечарынку для іх у канцы снежня 2018 года. Калі дайшлі да музыкі, я распавёў, якая патрэбна апаратура. На пытанне, адкуль я гэта ведаю, адказаў, што я — радыёфізік і былы музыкант, граў на бас-гітары і заўсёды адказваў у групе за апаратуру. І тут высвятляецца, што Міла — таксама бас-гітарыстка. І грае ў дзеючай групе — «The Kexies»! Яны граюць рок-н-рол, што можа быць лепш для танцаў і весялосці? Само сабой, запрашаем гурт да нас. Позні вечар у іх заняты, але яны паспяваюць у нас выступіць! Міла кажа, што я мог бы зайграць з імі якую-небудзь песню — і высылае мне пералік песень са спасылкамі.

Выбіраю «Good Golly Miss Molly», пазначана, што яна выконваецца ў ля мажор. Наогул, ля мажор — стандартная і зручная танальнасць у рок-н-роле. Любы джэм-сэшн (калі розныя музыкі граюць тое, што ў галаву прыйдзе, без рэпетыцыі) не абыходзіцца без такога рок-н-ролу. Думаю, на якім інструменце граць. Хвалююся, хоць песня вельмі простая. На гітары Мілы ці на сваёй? Дастаю сваю, якую набыў гадоў пяць таму. Рукі памятаюць. Вырашаю ўзяць яе.

***

...Тады, у 1984-м, мне ўсё ж патэлефанавалі на працу, калі ў абед мы з запалам гулялі ў шахматы. Гэта выглядала як атракцыён — два гульцы і мноства заўзятараў. Наш кіраўнік Уладзімір Іванавіч быў азартным шахматыстам, шмат хто з супрацоўнікаў, у тым ліку і я, — таксама, ды яшчэ да нас прыходзілі фанаты з іншых аддзелаў. Абед — 38 хвілін, трэба паспець збегаць у сталовую, хвілін 15 застаецца на гульню або на тое, каб заўзець. Гулялі бліц па 3 хвіліны. Добра, што ў момант званка я быў не за дошкай, інакш не ведаю, што б было. Мяне паклікалі, я падышоў да тэлефона.

— Прывітанне, я наконт гітары. Ты пакідаў мне тэлефон.

— Так?

— Ну, наконт той, што ў «Музыцы» ты глядзеў.

— Так?

— Ну так яна цябе цікавіць?

— Так!

— Я вось заехаў да сябра, ён яе за 750 браць не хоча.

— І што?

— Ды ты што, хворы? Будзеш браць за 750?

— Вазьму!

Вось так, не раздумваючы, некаторыя могуць і ажаніцца. Але мне трэба было дзесьці пазычыць 600 рублёў. Дамовіўся я з сябрамі хутка, і пасля працы ўжо ехаў у Зялёны Луг па сваю мару. Не ведаю як, але я здолеў спыніць спробу задраць цану шляхам «гандлю» паміж двума сябрамі-прадаўцамі. Я сказаў нешта накшталт таго, што, ці як дамовіліся, ці я з'язджаю. Наўрад ці б я з'ехаў, вядома. Але падзейнічала.

І вось я вязу мой цуд у цяжкім чорным футляры дадому. Гітара зручна ляжыць у сінім аксаміце, рэмень ачмуральна добры, уяўляю, што скажуць сябры. Я паслухаў яе пры куплі на слабой апаратуры, гук спадабаўся, але што будзе на маім апараце? Уключаю, слухаю. Абалдзець! Сіла! Гук доўжыцца секунд 30! Гэта называецца «сустэйн» і з'яўляецца прыкметай добрага інструмента. Тэмбр багаты, «сакавіты».

Наўрад ці б з мяне атрымаўся прафесійны музыка. Тут патрэбны адмысловы талент. Існуюць розныя тыпы памяці. У большасць людзей — пераважна зрокавая. А пераважна слыхавая — мала ў каго. Музыкі, па-мойму, — неверагодныя людзі. Зрокавая карцінка існуе ў кожны момант часу, яе можна зняць з дапамогай фотаапарата. А музыкі ў кожны момант часу не існуе. Яна з'яўляецца, вырастае з часу — самага таямнічага, што ёсць у нашым жыцці. Як сапраўдныя музыканты адчуваюць гэта — для мяне загадка.

А я падыходзіў да музыкі хутчэй матэматычна: рабіў табліцы акордаў, разбіраўся з інтэрваламі. Зразумеў, што можна «паверыць алгебрай гармонію», калі вывучыў тэмпераваны строй. Рабіў і правіў апаратуру, Сярогаў сінтэзатар, зрабіў для Лёнькі класную гітарную «прымочку» Overdrive з эквалайзерам па ўласнай схеме (прымочкамі музыкі на сваім слэнгу называлі прыстаўкі для апрацоўкі гуку). І працягваў граць. Неяк на выступе падыходзіць хлопец пытаецца:

— А чым ты апрацоўваеш гук бас-гітары, што за «прымочка»?

— Нічым.

— Як так, не можа быць!

— А вось так, уся справа ў гітары!

Я ганарыўся, але, як мне здаецца, нос не задзіраў. Хоць ні ў каго са знаёмых нават блізка не было такога інструмента. Гучала гітара магутна, разнастайна. Разам з барабанамі атрымлівалася вельмі моцна. Такі гук музыкі называлі «фірма». Граў я з сябрамі да 1987 года, а потым пайшло сямейнае жыццё, і не толькі ў мяне. Музыку давялося пакінуць. Часам цяпер спяваю пад гітару для сяброў. Але гэта іншая гітара. А сваю «Jolana D Bass» мне давялося прадаць дзесьці ў 1993-м, калі стала кепска з грашыма. Выручыў за яе 70 долараў.

Прайшоў час, у продажы з'явіліся любыя гітары на любы густ. Але «Rickenbacker» у нас можна купіць толькі па замове. Неяк апынуўся я ў Берліне ў складзе дэлегацыі юрыстаў. Зайшоў у музычную краму. Спыніўся каля белага «Rickenbacker». І ўспомніў, як я глядзеў на яго копію ў Мінску шмат гадоў таму. Мне тут жа далі інструмент у рукі, падключылі да ўзмацняльніка і прапанавалі паспрабаваць. Ад добрай гітары цяжка адарвацца. Дапамаглі калегі. Дзякуй ім, інакш я не ведаю, як бы я змог сысці.

***

...Музыкі настройваюць інструменты. Наша вечарынка хутка пачнецца. Я ўспамінаю, як гучыць басовая лінія. Бу-бу-бу-бу-бу-бу-бу. Да гэтага я сыграў дома пад фанаграму. Завуць мяне на сцэну. Людзі прыходзяць. Трохі хвалююся. Значна больш, чым перад дыскусіяй ці лекцыяй. Бо прайшло 32 гады... Пачынаецца канцэрт. Гучна і заўзята. Падыходзіць чарга маёй песні. Выдаем яе разам. Гучыць! Хлопцы ціснуць мне руку. Кажуць: усё добра, і гітара класная!

Добры быў вечар. Дзякуй калегам, Міле і «The Kexies». Я адчуў сябе так, як 30 з лішнім гадоў таму. Запомню гэта пачуццё. Еду дадому з ім — і з гітарай. З маёй «Jolana D-Bass», якую я набыў з нагоды гадоў пяць таму. З гітарай, якая гучыць гэтак жа, як тады. І ў руках ляжыць гэтак жа. Гэта не тая гітара, якая была калісьці маёй, няма і таго футляру з сінім аксамітам унутры. І рэмень не той. Але пачуццё класнага інструмента тое ж.

Разумны чалавек скажа, што не варта марнаваць грошы на тое, што табе сёння не вельмі трэба. І мае рацыю. Але калі гаворка ідзе пра мару, эмоцыі бяруць верх над розумам. Асабліва, калі гэтая мара суправаджае цябе ўсё жыццё. Што тут рацыянальнага? Нічога!

Ну, ці амаль нічога.




Нарач, спартыўны лагер БДУ, 1981 год. Ігар (вакал), Вася (філасаф, аматар музыкі), Віця (клавішныя), я, Саша (барабаны, першая змена), Алік (барабаны, другая змена), Коля (гітара).




Народная харавая капэла БДУ. Дырыжуе Ігар Мацюхоў

# БагатаДата

**На наступным тыдні сваё 75-годдзе адзначыць Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Іншыя круглыя даты і юбілеі — у нашым аглядзе.**

### 18 траўня

**1924.** У Вільні пачала выходзіць заходнебеларуская газета «Сын Беларуса». Яна была неафіцыйным друкаваным органам Беларускага пасольскага клубу — нацыянальнай дэпутацкай фракцыі ў польскім парламенце (Сойме). Выйшлі чатыры дзясяткі нумароў. Выданне было закрытае польскімі ўладамі ў верасні гэтага ж года.

### 19 траўня

**1939.** У вёсцы Нікуліна Маскоўскай вобласці нарадзіўся беларускі лёгкаатлет (трайны скачок) Уладзімір Гараеў. Сярэбраны прызёр Алімпіяды–1960. Вынік — 16 метраў 63 сантыметры. Сусветны рэкорд, дарэчы, ад 1995 года роўны 18 метрам 29 сантыметрам.

**1944.** Пры Акадэміі навук заснаваны Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Яго стваральніцай і першым дырэктарам была жонка паэта Уладзіслава Луцэвіч. З 1959 года музей знаходзіцца ў Мінску на вуліцы імя Янкі Купалы на месцы яго былога дома. Тут ёсць рукапісы, выданні твораў розных гадоў, асабістыя рэчы паэта, шматлікія фотаздымкі, інтэр'еры працоўнага кабінета, створаныя паводле ўспамінаў і архіўных матэрыялаў. Побач з музеем павінны былі ўзвесці альтанку, а таксама павільён для экспанавання асабістай Купалавай машыны маркі «Chevrolet», падоранай пісьменніку ўрадам БССР, але ажыццявіць гэта не ўдалося.

### 20 траўня

**1654.** Пачаліся баявыя дзеянні ў 13-гадовай вайне паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. У выніку разбуральнай вайны тэрыторыя ВКЛ зменшылася з 370 да 312 тысяч квадратных кіламетраў. А насельніцтва скарацілася ўдвая!

**1884.** У вёсцы Базаравічы Пухавіцкага раёна нарадзіўся харэограф і балетмайстар Канстанцін Алексютовіч. Стварыў сцэнічныя варыянты шматлікіх беларускіх танцаў — «Лявоніха», «Крыжачок», «Мяцеліца», «Мікіта», «Таўкачыкі», «Бычок», «Кола», «Юрачка», «Верабей», «Лянок», «Шастак», «Галубец», «Казачок».

**1954.** У Мюнхене пачала вяшчанне беларуская секцыя радыё «Вызваленне», цяпер гэта беларуская служба радыё «Свабода». Некалькі тыдняў таму яно пакінула радыёхвалі і застанецца ў інтэрнэце як мультымедыйная кампанія.

### 21 траўня

**1869.** У армянскім Сцепанаване нарадзіўся беларускі кампазітар Мікалай Чуркін, адзін з заснавальнікаў беларускай прафесійнай музыкі. Сярод яго твораў: оперы «Вызваленне працы», «Раскіданае гняздо», радыёопера для дзяцей «Рукавічка», музычныя камедыі «Кок-сагыз», «Песня Бярэзіны», уверцюра «Памяці Янкі Купалы» для аркестра беларускіх народных інструментаў, песні для дзяцей на словы беларускіх паэтаў.

**1894.** У сяле Стары Крывец, цяпер гэта Бранская вобласць Расіі, нарадзіўся Мікалай Галадзед, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, старшыня ўраду (Савета Народных Камісараў) БССР у 1927–1937 гадах. Быў зняты з пасады ў траўні 1937 года, а ў чэрвені арыштаваны ў Маскве, куды ён паехаў на прыём да Сталіна высветліць сітуацыю наконт сябе. Адпраўлены ў Мінск, дзе праз некалькі дзён падчас допыту ў НКУС выкінуўся з вакна пятага паверха. Але ёсць іншыя версіі яго смерці.

### 22 траўня

**1899.** У вёсцы Малыя Азяранкі Ваўкавыскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся педагог і палітычны дзеяч Мікола Чарнецкі. Сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Настаўнічаў у гімназіях Радашковічаў і Клецка. Працаваў дырэктарам школы ў Крынках на Беласточчыне. Праз катаванні забіты ў 1944 годзе пад Беластокам польскім падполлем, якое ў той час чыніла сапраўдны тэрор супраць беларускіх настаўнікаў.

### 23 траўня

**1959.** У Слоніме нарадзіўся доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук.

**1964.** У Мінску нарадзілася Ірына Дубянецкая, багаслоў і філосаф, доктар сакральнай тэалогіі.

### 24 траўня

**1904.** У вёсцы Пясочная пад Капылём на Міншчыне нарадзіўся паэт-песеннік Адам Русак. Яго песня «Бывайце здаровы» стала народнай.

**1944.** У прыгарадзе Гомеля з'явіўся на свет выдавец і аўтар гісторыка-папулярных кніг Анатоль Тарас.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Палута Бадунова: міністарка, пісьменніца, феміністка

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Мінску прэзентавалі першы зборнік твораў Палуты Бадуновай.**



Палута Бадунова — адна з нямногіх беларускіх палітычных дзяячак, першая жанчына ў складзе БНР, якая мела статус народнай сакратаркі (міністаркі) апекі, незалежніца, расстраляная ў Мінску ў 1938 годзе.

Але калі пра Бадунову-палітыка мы штосьці ведаем, то размову пра Бадунову-пісьменніцу мы вядзем ці не ўпершыню. Між тым яна пісала вершы, мастацкую прозу, п'есы, публіцыстыку, рабіла пераклады. Некаторыя яе творы нядаўна публікаваліся на старонках «Новага Часу». Увогуле ж каля паловы тэкстаў, сабраных у зборніку, надрукаваныя ўпершыню.

— Да Палуты Бадуновай я прыйшоў дзякуючы Валянціне Лебедзевай — гісторыку, якая адной з першых рэабілітавала яе імя. Потым да гэтага далучыўся Анатоль Сідарэвіч, які распавёў пра трагічнае каханне Палуты і Тамаша Грыба, — расказаў на прэзентацыі ўкладальнік кнігі Уладзіслаў Гарбацкі. — Мяне проста зачараваў почырк Палуты Бадуновай — ён быў вельмі прыгожы.

Па словах укладальніка, у віленскіх архівах тэксты Палуты Бадуновай амаль ніхто не чапаў, апрач таго ж Сідарэвіча і Аляксея Каўкі. Уладзіслаў Гарбацкі, паводле роду заняткаў — сацыялінгвіст, быў перакананы, што нашы гісторыкі ў архівах Вільні ўжо ўсё вывучылі. Але аказалася, што ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Вільні ёсць цэлая некранутая тэчка, прысвечаная Палуце Бадуновай. Нават падчас выдання збору твораў былі знойдзеныя новыя матэрыялы, якія ўвойдуць ужо ў наступную кнігу.



Гэтая ж — першая спроба сабраць творы аўтаркі, і мае, хутчэй, асветніцкую мэту. З лістоў Палуты Бадуновай можна зразумець, што яна пісала п'есы, адна з якіх прысвечаная Цётцы. Цётка і Максім Багдановіч былі найулюбёнымі аўтарамі Бадуновай. Дарэчы, Палуту Бадунову даследчыкі таксама завуць Цёткай Палутай. У другім, дапоўненым зборніку твораў будуць сабраныя ў тым ліку лісты Бадуновай, якія маюць не меншае значэнне, чым яе мастацкая і публіцыстычная творчасць.

Палуту Бадунову часта крытыкавалі за слабасць тэкстаў. Але многія даследчыкі прызналі, што апаваданне «Смерць мачыхі» — вельмі моцны тэкст, мужчына не мог такога напісаць.

Яшчэ і сёння аўтарку ўпікаюць за дрэнную беларускую мову, але чамусьці мала каго хвалюе, што многія мужчыны-пісьменнікі пісалі з жудаснымі памылкамі. Дарэчы, у зборніку ўкладальнікі адмыслова не сталі папраўляць русізмы, каб паказаць, як Палута прабівалася да сваёй беларускай мовы. Яна пісала вершы па-руску, але прозу і пераклады — па-беларуску.

Як настаўніца Палута Бадунова разумела, што праблем з беларусізацыяй не будзе, калі пачынаць яе з маленства. Таму яна пачала пісаць для дзяцей і перакладаць ірландскія народныя казкі з англійскай і рускай моваў на беларускую.

Адметныя не толькі мастацкія творы Палуты Бадуновай, але і яе публіцыстыка. Яна цікавая тым, што выдатна ілюструе дух часу, у які жыла аўтарка. Напрыклад, ужо ў 20-я гады XX стагоддзя Бадунова пісала пра тое, што рэлігія вельмі часта не спрыяе эмансіпацыі і развіццю жанчын. Феміністкі на Захадзе прыйшлі да гэтага толькі ў другой палове XX стагоддзя.

Таксама ў публіцыстыцы Бадуновай выдатна прасочваецца дваістасць беларускай душы: паміж захадам і ўсходам, паміж рэлігіяй і свецкасцю. Так, досыць часта ў яе творах можна сустрэць фразы кшталту «З Богам жа, таварышы!». Аўтарка спрабуе такім чынам кансалідаваць беларусаў, знайсці кампраміс, прычым не радыкальным чынам, а кліча іх за стол перамоваў.

Уладзіслаў Гарбацкі падкрэслівае гендарную прызму творчасці Палуты Бадуновай. Нават зборнік стаў першай кнігай, выдадзенай у серыі «Гендарная БНР». Здавалася б, пры чым пытанне гендару да Палуты Бадуновай? Ды хаця б пры тым, што многія даследчыкі распавядалі, што сустракалі яе тэксты ў архівах, але адкідвалі іх, бо… іх напісала жанчына.

І калі кнігі пра беларускіх пісьменнікаў-мужчын пачалі выдаваць напачатку 1990-х гадоў, то да жанчын справа стала даходзіць значна пазней. І цяпер у серыі «Гендарная БНР» плануецца выдаць прынамсі пяць зборнікаў твораў выдатных беларускіх дзяячак і пісьменніц Ванды Лявіцкай, Івонкі Сурвілы, Ніны Абрамчык, Ларысы Геніюш.

А першы збор твораў Палуты Бадуновай неўзабаве з'явіцца ў кнігарнях «Логвінаў» і «Акадэмкніга», таксама плануецца стварэнне электроннага варыянту кнігі.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №753

Падпісана да друку 10705.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.